8 снежня 2017 | № 46 (560)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Саўгас атакуе Крэмль**

Стар. 9










# Віктар Мароз: «Чаму мужчына не можа цікавіцца зброяй?..»



Алесь КІРКЕВІЧ

**З Віктарам, чарговым фігурантам «Справы патрыётаў» — усмешлівым маладым менеджарам, да якога зусім не падыходзяць такія паняткі, як «узброенае фармаванне», «злачынца», — мы паспелі пагутарыць яшчэ да заявы СК пра закрыццё справы. Але адмыслова не змянялі канцоўку матэрыялу — магчыма, чытач такім чынам лепш адчуе псіхалагічны стан і характар нашага героя.**

Віктару 32 гады, ён — сын кадравага вайскоўца — паспеў паспытаць «армейскага хлебу» ў Суворაўскай вучэльні. Але па жыцці абраў іншую сцяжынку — прыватны бізнес. Пры гэтым цікавасць да зброі захавалася, мабыць, на генетычным узроўні. Нягледзячы на тое, што ніхто парушаць закон нават не думаў, следчым хапіла ўніверсальнай спайкі: зброя ды «дрэнныя знаёмствы» — хлоп! — зоркі сышліся...

Зрэшты, пра ўсё па чарзе.

## «Увесь час разбіралі аўтамат Калашнікава...»

***— Ты мінчук?***

— Мой бацька — кадравы вайсковец, капітан, служыў у авіяцыі. Таму мы паездзілі па вайсковых гарадках: Мікалаеў, Мурманская вобласць, Магілёў, зноў Мурманск... Часта пераязджалі. У 1996-м — Мінск. Бацька па нацыянальнасці беларус, таму сюды ўрэшце і вярнуліся. Маці мае беларускія карані, але сама з Сібіры.

***— Бацька хацеў, каб ты пайшоў па вайсковай лініі?***

— Я вучыўся ў Суворาўскай вучэльні, але тут не бацька, а я асабіста ўгаварыў маму падаць дакументы. Гэта быў першы набор, калі бралі пасля 5-га класу, 1997 год. Сам падрыхтаваўся да іспытаў. Адвучыўся два з паловай гады і... цалкам расчараваўся ў войску, сышоў адтуль.

***— Чаму?***

— Шмат фактараў. Я вельмі цікавіўся вайсковай тэхнікай, зброяй, вывучаў, у якой краіне што знаходзіцца на ўзбраенні: заводзіў сшыткі, там усё распісваў-перапісваў... Інтэрнэту ж не было яшчэ. Карацей, сур'ёзна ў тым узросце цікавіўся. У Суворაўскай вучэльні трапіў у першы ўзвод першай роты: там апынуліся тыя, хто найлепш здаваў іспыты, меў найлепшы атэстат. Ад самой вучэльні, магчыма, я чакаў зашмат. Думаў, што будзе багата новай інфармацыі, будуць вучыць вайсковым дысцыплінам: тактыка, тапаграфія, вайсковая гісторыя... а ў выніку атрымалася, што гэта звычайная школа для хлопчыкаў.

***— А як жа спецдысцыпліны?***

— Нічога не было, прынамсі, за той час, які я там правёў: па 8-ы клас, пасля сышоў у 13-ю гімназію. Адзінае адрозненне ад звычайнай школы палягала ў тым, што ад 6-га класу ў нас быў раз на тыдзень занятак па вайсковай падрыхтоўцы — і ўсё. Мы ўвесь час разбіралі аўтамат Калашнікава. Агулам — ніякай новай інфармацыі, абсалютна аднабокае выкладанне. І гісторыя Беларусі, і сусветная — тое ж, што і ў школе. Таму хутка мне ўсё гэта надакучыла. Мала таго, што ты вучышся, як у школе, дык яшчэ і «ўкалваеш» у нарадах і г. д. — гэта было акурат як у войску.



## «Калі ўсе спявалі «Господа офицеры», я адмовіўся»

***— Вы ж там і жылі — у вучэльні?***

— Так, казарменны рэжым. Але кожныя выходныя, калі не маеш залётаў, можаш хадзіць у звальненне. Наш першы ўзвод быў лепшым у вучобе, таму мы хадзілі не як усе — да 18.30 нядзелі, але ажно да ранку панядзелка — прыходзілі акурат пад занняткі. Гэта ў нас была такая ўнікальная прэрагатыва. Калі на штодзень была адна форма — штодзённая, дык у звальненні хадзілі ў парадной.

***— Падабалася форма?***

**«Сапраўдная гісторыя знаходзіцца недзе за шырмай, пра яе кажуць шэптам»**

— Спачатку так, крута было! Я ж усё жыццё марыў быць вайскоўцам, а вайскова-паветраныя сілы... блакітная мара наогул! У вучэльні я пачаў чытаць гісторыю Беларусі, асэнсаваў сябе беларусам... Добра, што ў нас быў прасунуты настаўнік гісторыі. Ён не казаў адкрыта, але неяк намякаў, якую літаратуру можна пачытаць. Тады я даведаўся пра «Невядомую вайну» ды іншыя важныя для беларусаў тэмы.

Чытаючы, я адчуваў, што ўнутры нешта зрушваецца. Урэшце, у мяне ўзнікла пытанне: а чаму наша вучэльня — «Суворաўская»?.. Адчуў тады несамавітае абурэнне! Гэта было таксама адным з фактараў, чаму я не давучыўся і сышоў. Мяне гэта душыла ўвесь час — сама назва. Спрачаўся з афіцэрамі, падымаў гэтую тэму.

***— Здаецца, 1990-я гады — гэта час вольніцы, прынамсі калі казаць пра гісторыю ды падручнікі. Вас гэта не закранула?***

— Гэта была ўжо другая палова 1990-х гадоў, таму моманты, якія з'явіліся ў падручніках пасля краху СССР, зноў пачалі выкрэсліваць... Засталося ўражанне, што там былі адно намёкі на нешта большае: сапраўдная гісторыя, маўляў, знаходзіцца недзе за шырмай, пра яе кажуць шэптам.

А яшчэ я спяваў у хоры. Памятаю гэтыя канцэрты, у Палацы афіцэраў у тым ліку. Нас прымушалі спяваць, напрыклад, «Господа офицеры» з радком «...за Россию, за свободу...», памятаеце? Некаторыя песні я наўпрост адмаўляўся спяваць. Калі я адмовіўся спяваць «Афіцэраў», мне сказалі хаця б адкрываць рот. Я і рот адмовіўся адкрываць...

***— Не выгналі за такое з хору?***

— Мне нічога не зрабілі, бо на хор ніхто хадзіць не хацеў — вось і не маглі выгнаць *(смяецца)*. Раней спяваў добра — пакуль голас не паламаўся. Такія справы.

Працяг на стар. 5 »

# У Мінску з’явіліся першыя гастравуліцы

Вера КАНЕЦКАЯ

**Самай кулінарнай у Мінску стала вуліца Інтэрнацыянальная.**

Рэйтынг гастранамічных вуліц сталіцы склалі прадстаўнікі «Exponenta», вытворцы ўзбагачаных бялком напояў і імунакактэйляў.

Мінск перажывае ўсплёск інтарэсу да гастранаміі: колькасць аб’ектаў грамадскага харчавання расце ва ўсіх раёнах, а ў горадзе асвойваюць новыя фарматы ўстаноў. Больш за ўсё кафэ і рэстаранаў у цэнтры горада — перш за ўсё, у Верхнім горадзе і раёне Нямігі. Рэстаратары традыцыйна актыўныя ў межах другога кола, а ў апошні час кафэ і кандытарскія часта пачалі з’яўляцца ў спальных раёнах.

Гастранамічны рэйтынг узначаліла вуліца Інтэрнацыянальная, на якой размешчана каля 20 кафэ і рэстаранаў. Папулярнасць забяспечвае размяшчэнне ў цэнтры горада і наяўнасць гасцініц. Нягледзячы на малую працягласць (усяго 1 кіламетр), вуліца стала адным з нешматлікіх месцаў, дзе піраговая суседнічае з французскай пякарняй, а прэстыжнае кафэ — з моладзевай кавярняй. Тым часам далёка не ўсе ўстановы вытрымліваюць высокую канкурэнцыю.

На другім месцы знаходзіцца вуліца Карла Маркса, дзе на адлегласці 1,3 кіламетра сабраныя піцэрыі, кавярні і рэстараны нацыянальнай кухні. У адрозненне ад лідара спісу, вуліца Карла Маркса ў большай ступені імкнецца да рэспектабельных устаноў. Так і не стаўшы пешаходнай, яна пачала губляць папулярнасць, хоць усё яшчэ ўяўляе цікавасць для гурманаў.

Трэцяе месца займае праспект Незалежнасці з самай вялікай колькасцю аб’ектаў грамадскага харчавання — каля 100. У той жа час сканцэнтраваны яны ў асноўным каля станцый метро і «гастранамічнага калідора» не ўтвараюць. Найбольшую цікавасць праспект уяўляе для аматараў дэмакратычных кафэ, але наведвальнікамі распешчаны далёка не ўсе ўстановы.

Следам ідзе вуліца Няміга, якую аблюбавалі рэстараны хуткага харчавання і кафейня. Першую пяцёрку замыкае вуліца Зыбіцкая, якая не мае роўных у канцэнтрацыі бараў і пабаў.

У спіс таксама ўвайшла вуліца Рэвалюцыйная з акцэнтам на кулінарны андэграўнд, які развіваюць установы з аўтарскай кухняй. Сёмае месца займае вуліца Кастрычніцкая з моладзевымі кафэ і барамі.

Шмат кафэ і сеткавых рэстаранаў на вуліцы Сурганава. Багатая на гастраноміі вуліца Кульман, для якой у большай ступені характэрны стрытфуд. У рэйтынг таксама патрапіў праспект Пераможцаў, аб’екты грамадскага харчавання ўздоўж якога шырока прадстаўлены ў гандлёвых цэнтрах і гасцініцах.

Рэйтынг складзены на аснове аналізу гастранамічнай інфраструктуры Мінска. У якасці ключавога крытэру — канцэнтрацыя аб’ектаў грамадскага харчавання на той ці іншай вуліцы. Спецыялісты лічылі кафэ, бары, рэстараны, буфеты, сталовыя і фудкорт у гандлёвых цэнтрах. Значэнне мела не толькі колькасць, але і якасць устаноў і іх разнастайнасць: чым больш кулінарны выбар прапануе вуліца, тым вышэйшае месца яна заняла ў спісе.

# «Тут мы адчуваем сябе шчаслівымі»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Яшчэ адзін дом для сезоннага сумеснага самастойнага пражывання сталых людзей адчыніўся ў Беларусі. На гэты раз — у аграгарадку Грозаў Капыльскага раёна.**

Гэта стала магчымым у выніку ажыццяўлення мясцовай ініцыятывы «Дом надзеі» ў межах праекту «Садзейнічанне ўстойліваму развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь», што фінансуецца Еўрапейскім саюзам і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН. З беларускага боку агульнарэспубліканскім партнёрам праекту з’яўляецца Міністэрства эканомікі.

Партнёрамі ў рэалізацыі ініцыятывы «Дом надзеі» выступілі Капыльская раённая арганізацыя грамадскага аб’яднання «Беларускі саюз жанчын», ТАА «Капыльскі Энергасэрвіс».

Па выніках конкурсу мясцовых ініцыятыў праект «Дом надзеі» дзяржаўнай установы «Капыльскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва» стаў пераможцам і атрымаў фінансавую падтрымку з боку Еўрапейскага саюза — каля 19 тысяч долараў, фінансаванне з беларускага боку, у сваю чаргу, склала каля 11 тысяч долараў. На сродкі Еўрасаюза і беларускіх спонсараў быў зроблены якасны рамонт пустуючага дзіцячага сада, набытыя бытавая тэхніка, мэбля і іншае неабходнае абсталяванне — створаны цывілізаваныя ўмовы для сезоннага пражывання самотных сталых людзей.

Кіраўнік Капыльскага тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўвання Святлана Маліноўская правяла па трох утульных жылых пакоях і патлумачыла назву ініцыятывы «Дом надзеі».

— Хацелася б, каб у людзей, якія на схіле жыццёвых дзён засталіся ў адзіноце, з’явілася надзея на лепшае, каб яны ў гэтым доме маглі атрымаць эмацыйную і псіхалагічную падтрымку і матывацыю для далейшага паўнавартаснага жыцця, — гаворыць Святлана Станіславаўна. — Меркавалася, што ў «Доме надзеі» будуць створаны спрыяльныя бытавыя і псіхалагічныя ўмовы для пражывання, самотныя пажылыя людзі змогуць весці актыўны лад жыцця і атрымліваць неабходны комплекс сацыяльных паслуг, кансультатыўную медыцынскую дапамогу спецыялістаў, быць удзельнікамі культурных мерапрыемстваў.

Па словах Святланы Маліноўскай, пераважнае права для падпісання адмысловай дамовы — у грамадзян, якія пражываюць у Капыльскім раёне і не маюць блізкіх родзічаў. Тры бабулі, якія на зіму пасяліліся ў доме для сумеснага пражывання, пакуль што падпісалі дамову на год. Пры жаданні, яны могуць скасаваць дамову. У летні час пажылыя жанчыны збіраюцца жыць у сваіх дамах, і на гэты час запланавана пасяліць людзей з інваліднасцю для сацыялізацыі і адаптацыі для самастойнага жыцця. Дзеля гэтага створана безбар’ернае асяроддзе.

Леанідзе Аляксандраўне Загароўскай — 83 гады. Усё жыццё яна пражыла ў невялічкай лясной вёсцы Садкі ў шасці кіламетрах ад Грозава. Працавала даяркай. Дзяцей яна не мае. Леаніда Аляксандраўна гаворыць на прыгожай і чыстай беларускай мове і нават піша вершы пра лес, вецер, прыроду. Улетку адна з такіх прыродных стыхій ледзьве не разбурыла яе хатку — пахіліла сцяну і пахістала вокны.

— Брат мой, які жыве ў Мінску, вельмі настойваў на тым, каб я пайшла жыць з іншымі людзьмі на зіму. Вельмі складана зімаваць адной. Мне тут вельмі падабаецца, — распавядае жанчына. — Тут ёсць усе выгоды, пра якія жыхарам нашых вёсак можна толькі марыць. Пакой вялікі і ўтульны, падзелены на дзве зоны: спальню і зону адпачынку. Не хочаш ляжаць — пасядзі на мяккай канапе. Ёсць і адмысловая зала для адпачынку з тэлевізарам...

Па словах Леаніды Аляксандраўны, персанал па сацыяльным абслугоўванні клапатлівы і добразычлівы. Яна стала пачуваць сябе шчаслівым чалавекам.

Зінаідзе Фёдараўне пайшоў 77-мы год. Гэтая жанчына перажыла жахлівае гора — спачатку памерлі яе двое дзяцей, а муж і яшчэ адзін сын сканалі ў гэтым годзе з невялікім інтэрвалам. У адрозненне ад жвавай Леаніды Аляксандраўны, перамяшчаецца яна з цяжкасцю. Сацыяльны цэнтр узяў для яе ў пракаце адмысловыя хадункі. Нягледзячы на цяжкае захворванне, жанчына дома яшчэ трымала агарод, які нават сама даглядала.

Кожны сталы чалавек — гэта адначасова і асоба з вялікім жыццёвым досведам, са сваімі памкненнямі, своеасаблівым тэмпераментам і звычкамі. Але многія людзі, якія перажылі гора і знаходзяцца ў адзіноце ў сталым узросце, схільны заўважаць і біду іншых людзей, і добрыя адносіны. Магчыма, такія ўтульныя дамы для сумеснага пражывання адзінокіх людзей — яшчэ адзін шанец для іх адчуць сябе шчаслівымі.

# Правы чалавека: канец «мяккіх практык»

Сяргей ПУЛЬША

**Напярэдадні 10 снежня, Сусветнага дня абароны правоў чалавека, НЧ папрасіў ацаніць тэндэнцыі за год праваабаронцу Валянціна Стфановіча. «Горш, чым у мінулым годзе», — адназначна сказаў ён.**

Сумная, на думку праваабаронцы, тэндэнцыя ў тым, што 2017 год стаўся годам заканчэння «мяккіх практык», як іх назвалі праваабаронцы, і якія былі характэрныя са жніўня 2015-га да вясны 2017-га. Гэтыя практыкі палягалі ў тым, што ўлады нейкім чынам усё ж ухіляліся ад больш жорсткіх рэпрэсій у дачыненні да палітычных апанентаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. Дэманстрацыі, якія адбываліся, не разганяліся, іх удзельнікі не арыштоўваліся. Праўда, потым людзі атрымлівалі штрафы, часцяком непамерныя. Але арыштаў было параўнальна менш.

«У 2016 годзе мы заяўлялі пра магчымы палітычны крымінальны пераслед у дачыненні да сямі чалавек — і ўсе гэтыя людзі не былі пакараныя рэальным пазбаўленнем волі. Паліенку, праўда, усё ж нагнаў яго лёс вясной 2017-га, але ў 2016-м яго вызвалілі ў залі суда», — адзначае праваабаронца.

Пагоршыла сітуацыю, па словах Стэфановіча, сама ўлада, зрабіўшы абсалютна неразумны крок, пра небяспеку якога папярэджвалі ці не ўсе. Быў уведзены ў дзеянне Дэкрэт №3, які закрануў шырокія колы людзей. «Не апазіцыя людзей вывела на вуліцы, а самі ўлады. І Лукашэнка гэта вызнаў, сказаўшы, што людзей «незаслужана пакрыўдзілі», — кажа Стэфановіч.

У выніку зімова-вясновыя пратэсты супраць «дармаедскага дэкрэту» змянілі тактыку ўладаў, і «мяккія практыкі» перайшлі ў жорсткія. «Вясна вызначылася рэзкім ўсплёскам рэпрэсій, у выніку падзеяў 25 сакавіка больш за тысячу чалавек былі падвергнутыя адміністрацыйным затрыманням, арыштам і штрафам», — нагадвае юрыст.

Прычым, як адзначае праваабаронца, улады дзейнічалі выбарачна: імкнуліся не хапаць простых люд, акцэнтавалі ўвагу на прадстаўніках мясцовых апазіцыйных сілаў і руxаў, блогерах і журналістах. «Веснавыя падзеі прывялі да ўзмацнення ціску на незалежных журналістаў, на тых, хто супрацоўнічае з «Белсатам», «Радыё Рацыя», і нават з афіцыйна акрэдытаванымі ў Беларусі замежнымі СМІ, напрыклад «Радыё Свабода». Відавочна, улады былі занепакоеныя тым, што інфармацыя пра пратэсты можа выклікаць эфект снежнага кому», — адзначае Стэфановіч.

На гэтым жа фоне быў распачаты шэраг крымінальных спраў: «Справа патрыётаў», і ў гэтым жа рэчышчы можна разглядаць «Справу прафсаюза РЭП», які таксама актыўнічаў увесну. «То бок, сітуацыя ўвесну пагоршылася вельмі рэзка», — заўважае праваабаронца.

Калі пратэстная хваля была збітая, улады паступова пачалі згладжваць тое, што яны нарабілі: на думку Стэфановіча, таму што «пытанне выроўнівання стасункаў з Еўрасаюзам для іх важнае». Фігурантаў «Справы патрыётаў» вызвалілі з-пад варты перад самітам Парламенцкай Асамблеі АБСЕ ў Мінску, пасля вызвалілі з-пад варты бухгалтара прафсаюза РЭП Ігара Комліка. Зараз «Справу патрыётаў» спынілі.

І тым не менш, у фармат 2016 года краіна так і не вярнулася. Улады працягвалі арышты ўдзельнікаў акцый, хоць яны і былі не такімі масавымі, і нейкай небяспекі не ўяўлялі.

Але самае прыкрае, па словах Стэфановіча, — тое, што ў краіне ў 2017 годзе з’явіліся новыя палітвязні. «Змітру Паліенку адмянілі адтэрміноўку прысуду і накіравалі ў калонію. Фармальна гэта было зроблена за здзяйсненне некалькіх адміністратыўных правапарушэнняў. Але, калі глядзець сутнасна, то гэтыя правапарушэнні таксама звязаны з рэалізацыяй правоў на мірныя сходы і свабоду выказвання — напрыклад, за абарону Курапатаў», — падкрэслівае Стэфановіч.

Застаецца за кратамі Міхаіл Жамчужны, і пытанне палітвязняў, на жаль, пакуль што актуальнае.

Такім чынам, падсумоўвае праваабаронца, 2017 год у галіне правоў чалавека ў Беларусі быў горшым, чым папярэдні 2016-ты.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Усё, у сярэднім, добра?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Багата было апошнім часам інсінуацый наконт таго, чаму Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін двойчы не сустрэліся сам-насам. Спачатку такая сустрэча не адбылася падчас вучэнняў «Захад–2017», потым яны не сустрэліся на саміце АДКБ. На маю думку, усё проста: ім няма чаго абмяркоўваць.**

У новы год мы, падаецца, увойдзем ужо без традыцыйнай забаўкі пад назвай «нафтагазавая спрэчка». Як паведамляюць СМІ, Беларусь і Расія ўзгаднілі індыкатыўны баланс паставак расійскай нафты ў 2018 годзе. Намеснік міністра энергетыкі Расіі Кірыл Маладцоў паведаміў на тыдні, што аб'ём паставак нафты ў будучым годзе складзе 24 мільёны тон. «Баланс звярстаны, усё гэтак жа, як і меркавалася — 24 мільёны тон», — сказаў ён.

Нагадаем, што апошні нафтагазавы канфлікт скончыўся ў красавіку гэтага года. Было дасягнутае рашэнне, што такія аб'ёмы пастаўляцца будуць з гэтага года і да 2024 года ўключна. Пры гэтым да 2018 года ўключна з 24 мільёнаў толькі 18 мільёнаў будзе адпраўляцца на перапрацоўку НПЗ, што беларускія ўлады называюць «выгадным пагадненнем».

І тым не менш, як мы да гэтага прызвычаіліся, віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка 6 снежня ўсё роўна выправіўся ў Маскву на перамовы па газе са сваім расійскім калегам Аркадзем Дварковічам. Але, паводле паведамлення «Інтэрфакса», асаблівых спрэчак па цане на газ не чакаецца. Перад партнёрамі стаіць новая задача — дамовіцца аб падыходах да фармавання адзінага рынку газу ЕАЭС.

Калі Дварковіч і Сямашка (пэўна, яны адзін аднаму ўжо абрыдлі) на перамовах не накасячаць, з газам у нас усё будзе нармалёва.

Так што самы час нам пакрысе разбірацца з унутранымі праблемамі. А такіх унутраных праблемаў у нас багата.

Адзін раз Міхаіл Булгакаў напісаў пра «кватэрнае пытанне», і вось ужо каля ста гадоў гэтае пытанне непакоіць насельніцтва краін пост-СССР. У Беларусі, аказваецца, з гэтым пытаннем — нейкі незразумелы перакос. Як паведаміў днямі начальнік упраўлення жыллёвай палітыкі Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Аляксандр Горваль, насамрэч, у нас няма жыллёвага крызісу. Больш за тое, дэвелаперы будуюць у Беларусі больш жылля, чым могуць рэалізаваць.

Як сказаў чыноўнік, зараз у Беларусі ў наяўнасці 5270 свабодных кватэр. З іх 4150 кватэр у дамах, якія яшчэ будуюцца, а 1120 — гэта жыллё, якое ўведзена ў эксплуатацыю, але так і не знайшло сваіх уладальнікаў.

«Гэты паказчык дваякі, — кажа Горваль. — З аднаго боку, добра, што на рынку ёсць прапанова, якая перавышае попыт. Але з іншага — насцярожвае, што гэты попыт незадзейнічаны. Хаця кошты ў апошні час моцна адкаціліся назад, тым не менш, кватэры прастойваюць і не рэалізуюцца». І гэтае перавышэнне прапановы над попытам адмоўна адбіваецца на падрадчыках, якія сутыкаюцца з сур'ёзнымі фінансавымі праблемамі, таму што з імі не разлічваюцца за зробленыя працы.

Сітуацыя можа яшчэ больш ускладніцца ў 2018 годзе, бо, паводле Горваля, кіраўнік дзяржавы «ставіць перад намі задачу павялічыць аб'ёмы будаўніцтва з 3,5 мільёна квадратных метраў у 2017 годзе да 4 мільёнаў у 2018 годзе».

**27,8%**

**беларусаў штомесяц маюць у сваім распараджэнні не больш за 300 рублёў. І толькі 16,9% ад усяго насельніцтва штомесяц мелі ў распараджэнні суму ад 600 рублёў і больш**

І ў той жа час, у час «нераспрададзеных кватэраў», у чарзе маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў знаходзяцца амаль 700 тысяч сем'яў, якім неабходна больш за 30 мільёнаў квадратных метраў жылой плошчы.

Ці не дзіўная сітуацыя: кватэры пустыя, а людзям няма дзе жыць? Чаму наша «дзяржпадтрымка» дапускае такі перакос? Чаму у нас, пры дэклараванай «аднназначнай» інфляцыі, стаўкі па крэдытах на жыллё не дазваляюць набываць жыллё камерцыйнае?

Ды папросту таму, што ў народа няма грошай. Крэдыт на набыццё кватэры ў 25 тысяч долараў можна ўзяць на 15 гадоў пад стаўку ад 12% да 16%. Але выплата нават 12% складзе 600 рублёў на месяц. У той час, як, паводле дадзеных Белстата аб сярэднедушных наяўных рэсурсах насельніцтва за трэці квартал гэтага года, больш за чвэрць беларусаў (27,8%) штомесяц маюць у сваім распараджэнні не больш за 300 рублёў. І толькі 16,9% ад усяго насельніцтва штомесяц мелі ў распараджэнні суму ад 600 рублёў і больш.

Так што тых, хто можа сабе дазволіць камерцыйны крэдыт на жыллё ў Беларусі — толькі шостая частка насельніцтва. І думаю, што гэтая частка праблем з кватэрамі не мае.

А як жа «па пяцьсот»? — запытаецеся вы. Нам жа кажуць, што мы вось-вось дасягнём і гэтага заробку, а некаторыя яго ўжо дасягнулі?

Дасягнулі, але на той паперы, якая, на жаль, не мае адносінаў да грашовых адзінак.

Цікавае выйсце ў гэтым пытанні знайшлі, напрыклад, на «Бабруйскаграмашы». Працоўным прапануюць напісаць заявы пра сыход у адгул, але пры гэтым застацца на працы. Што дазволіць ім захаваць зарплату за снежань на ранейшым узроўні.

То бок чалавек па дакументах у снежні адпрацаваў 10 дзён, але заробак атрымае за месяц. Лічыць жа сярэднюю зарплату будуць, зыходзячы з «адпрацаванага» па дакументах. І атрымаецца, што «сярэдні» заробак будзе ў два разы больш за фактычны. Вось вам і дасягненне планкі ў 1000 рублёў!

І такіх хітрыкаў, калі ў сярэдні заробак змешваюць атрыманае настаўнікам і дэпутатам, прыбіральшчыцай і міністрам, у нас вельмі багата.

А эканаміст Аляксандр Чубрык увогуле падказаў уладам «элегантнае» рашэнне гэтай праблемы. Ён згадаў, што ўпершыню мэта «па 500» была пастаўленая на снежань 2010 года. Але, калі перавесці беларускія кошты ў долары ў эквівалент, то яны са снежня 2010 года моцна змяніліся. А дакладней, упалі на 32% (што не дзіва, бо і заробкі знізіліся). Гэта значыць, каб купіць столькі тавараў, колькі мы ў сярэднім маглі купіць на 100 долараў у снежні 2010 года, цяпер (у кастрычніку 2017-га) нам спатрэбіцца 68 долараў.

То бок, за цяперашнія 428 долараў заробку мы можам у сярэднім купіць столькі ж, колькі за 628 долараў у 2010 годзе. А значыць, «па 500» даўно дасягнуты, і можна ставіць галачку «выканана», разважае Чубрык.

Канешне, такой падказкай ад эканаміста можа скарыстацца і Саўмін, і Белстат. І нават адрапартаваць кіраўніку дзяржавы пра выкананне яго даручэння можна — бо завумна і навукова. Аднак што ў разважаннях Чубрыка насцярожвае?

Насцярожвае, што і ў Чубрыка мы можам на 100 долараў у 2010-м альбо на 68 долараў у 2017-м набыць тавараў «у сярэднім». Падаецца, гэта такія ж «сярэднія» тавары, як і сярэдні заробак «па 500».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Рыгор Кастусёў



**Падобна на тое, што новы старшыня Партыі БНФ спрабуе вярнуць партыю ў сістэмную палітыку. Але ці дапаможа гэта партыі на мясцовых выбарах?**

Спачатку Кастусёва запрасілі на ток-шоў беларускага тэлебачання «Наша жыццё», дзе ён даволі жорстка адрэагаваў на прапагандысцкую перадачу НТВ. А потым старшыня БНФ паведаміў, што абмеркаваў у Міністэрстве замежных спраў пытанні, звязаныя са святкаваннем 25 сакавіка 2018 года 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Больш за тое, днямі ў яго павінна адбыцца сустрэча з гэтай нагоды з кіраўніком ведамства Уладзімірам Макеем.

Пры гэтым Кастусёў звяртае ўвагу на «сенсацыю»: днямі Аляксандр Лукашэнка заявіў пра каштоўнасць Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года, які непасрэдна датычны да абвяшчэння праз некалькі месяцаў БНР. Лідар Партыі БНФ спадзяецца, што да ўладаў з'яўляецца «разуменне, што без тых падзей не было б сучаснай Беларусі».

## Агнешка Рамашэўска



**Камісія фінансаў польскага Сейма прыняла 5 снежня папраўкі ў бюджэт, якія дазваляюць Міністэрству фінансаў выдаткаваць сродкі для працы тэлеканалу «Белсат».**

Парламенцкая камісія зацвердзіла папраўкі пасля двух чытанняў праекта бюджэту. Цяпер іх павінны зацвердзіць дэпутаты на пленарным пасяджэнні. "Белсат" уратаваны», — напісала ў Twitter дырэктар канала Агнешка Рамашэўска. А потым паведаміла, што «папраўкі, якія праходзяць праз Камісію фінансаў і якія маюць палітычную падтрымку, праходзяць на 99,9%».

Папраўку, якая б гарантавалі вылучэнне сродкаў каналу праз Міністэрства фінансаў, прапанаваў адзін з дэпутатаў кіруючай партыі «Права і справядлівасць», іх падтрымаў і лідар партыі Яраслаў Качыньскі.

Да 2016 года 16–20 мільёнаў злотых для «Белсата» выдаткоўвала Міністэрства замежных спраў Польшчы, яшчэ частка грошай паступала з іншых крыніц. Але ў снежні 2016 года МЗС Польшчы значна скараціла фінансаванне тэлеканала, што ўвогуле паставіла пад пагрозу існаванне «Белсата».

У лістападзе 2017-га з'явіліся першыя добрыя навіны: Агнешка Рамашэўска паведаміла, што «існуе палітычная воля ўтрымаць «Белсат», і што «Міністэрства фінансаў працуе, каб гэта забяспечыць фінансава».

## Павел Калаур



**Старшыня Нацыянальнага банка Беларусі атрымаў незвычайнае прызнанне. Ён стаў «Чалавекам года» па версіі рэдактараў выдання «Наша Ніва».**

Летась «Наша Ніва» назвала чалавекам года стваральніцу праекту «Імёны» Кацярыну Сінюк — за арганізацыю новых формаў дабрачыннасці. У 2015 годзе — Святлану Алексіевіч, першую беларуску, якая атрымала Нобелеўскую прэмію. Калаур атрымаў прызнанне за стабілізацыю рубля і вяртанне даверу да нацыянальнай валюты.

«Два гады таму скептыкі прагназавалі, што манеткі хутка стануць нікому не патрэбныя. Ажно не — за долар як давалі два рублі, так і даюць. Упершыню за ўсе гады незалежнасці інфляцыя складае ўсяго 6%. Стаўка па рублёвых крэдытах апусцілася ніжэй за 10%. Стабільнасць валюты вяртае людзям базавы давер да дзяржавы», — падкрэслівае «Наша Ніва».

Была выпрацавана праграма грашова-крэдытнай палітыкі пры абмежаваным павышэнні грашовай масы — кажучы па-простаму, устаноўлены ліміт на друк грошай. За 11 месяцаў 2017 года, напрыклад, рост шырокай грашовай масы ў эканоміцы склаў каля 8%, хаця раней бывала і па 100%, і па 200%. А стаўка рэфінансавання ў 2017-м паніжалася 8 разоў і цяпер складае 11%, а не 25%, як у 2015 годзе, піша «Наша Ніва».

Але, напэўна найвялікшым дасягненнем НН лічыць, што «ў правільнасці такой палітыкі Калаур пераканаў Лукашэнку».

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Няма ў рэвалюцыі канца

**Валакіта і адпіскі — толькі «кветачкі» бюракратызму. Яго «ягадкі» — гэта права чыноўнікаў прымаць рашэнні імем рэвалюцыі.**

Парадокс. У дзяржаве, якая прэтэндуе на званне «полюса стабільнасці» і «спонсара бяспекі», многія рашэнні на вышэйшым кіраўнічым узроўні прымаюцца «імем рэвалюцыі». Спектр такіх рашэнняў надзвычай шырокі: ад прыпынення бандыцкай прыватызацыі і запуску прадпрыемстваў, якія спыніліся пасля распаду СССР, да вызначэння цэн на школьныя сняданкі, абеды і вячэры.

Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не прывесці канкрэтнае выказванне адзінага палітыка (АП), запазычанае з Паслання–2004: «Замест 20 сантыметраў сценкі ўнутры памяшкання будаўнікі прапаноўваюць: «Аляксандр Рыгоравіч, давайце зробім 5 сантыметраў. Тут жа дастаткова. Гэта ў два разы танней». Трэба рашэнне прэзідэнта. Прыняў рашэнне «імем рэвалюцыі», без усялякіх нарматыўных актаў дазволіў. Пабудавалі. Ходзяць і захапляюцца: як прыгожа, добра і зручна».

Нагадаю, што і кампанію па выкараненні ўтрыманства і дармаедства ў 2015 годзе АП пачаў звыклым для сябе спосабам: «Час спыняць гэта ўтрыманства! 400 тысяч павінны быць уцягнутыя імем рэвалюцыі ў працу! Гультаёў не павінна быць у краіне!»

## Самародак з народа

Буржуазныя рэвалюцыі ў Еўропе завяршыліся ў 1849 годзе. Іх гістарычная роля палягала ў ліквідацыі перашкодаў для капіталістычнага развіцця. У сучаснай Беларусі, калі меркаваць па чарговай спробе разняволіць дзелавую ініцыятыву, гэту задачу так і не атрымалася вырашыць. Вось і даводзіцца АП кампенсаваць недахоп ініцыятывы прадпрымальнікаў (сучасных буржуа) сваёй асабістай актыўнасцю.

У студзені 2007 года 11% беларусаў (глядзі табліцу) успрымалі галоўнага гаранта традыцыйных каштоўнасцяў, песняра стабільнасці ў якасці лідара, што рэвалюцыйна пераўтварае рэчаіснасць. На ўзроўні бытавой свядомасці сумясціць адно з другім няпроста, таму звернемся па дапамогу да класіка паліталогіі Макса Вебера, першаадкрывальніка паняцця «харызма», пад якой ён разумеў «якасць асобы, што прызнаецца незвычайнай, дзякуючы якой яна ацэньваецца як адораная звышнатуральнымі, надзвычайнымі сіламі і ўласцівасцямі, не даступнымі іншым людзям».

Ужо «цяплей», пагадзіцеся. А каб стала «горача», я працытую акадэміка Анатоля Рубінава. У адрозненне ад аўтара «азбукі паліталогіі», ён меў магчымасць пазнаёміцца з асабістымі якасцямі АП не праз СМІ, а ў працэсе шматгадовай сумеснай працы. Адкрыем «Советскую Белоруссию» ад 06.07.2010: «Нам пашанцавала ў тым, што ў самым пачатку нашага дзяржаўнага будаўніцтва краіну ўзначаліў А.Р. Лукашэнка — таленавіты самародак з народа, які інтуітыўна намацаў самыя эфектыўныя і наймenш балючыя шляхі нашага развіцця, здолеў згуртаваць народ, выбудаваць сістэму кіравання дзяржавай, накіраваў намаганні ўсіх і кожнага на рашэнне самых галоўных, жыццёва важных задач».

Ключавое слова ў апошняй цытаце — «інтуітыўна». Харызматычны лідар (а ў тым, што такім успрымаўся АП не толькі акадэмікамі, але і большасцю беларусаў у пачатку 1990-х гадоў, сумнявацца не даводзіцца) рэзка супрацьпастаўлены як рацыянальнаму, асабліва бюракратычнаму, так і традыцыйнаму тыпу палітыкаў.

Тут варта падкрэсліць, што пытанне наяўнасці харызмы трымаецца на прызнанні падначаленых. Такое прызнанне псіхалагічна з'яўляецца глыбока асабістым. Яно заснаванае на веры, што нараджаецца з натхнення і надзеі. На жаль, пытанне пра тое, як успрымалі вобраз АП раней за 2007 год, сацыёлагамі НІСЭПД не задавалася. Аднак не даводзіцца сумнявацца, што ў год трыумфальнай перамогі на першых прэзідэнцкіх выбарах у здольнасць АП якасна і рэвалюцыйна пераўтвараць рэчаіснасць верыў значна больш працэнт беларусаў.

## Пытанне да акадэміка

Але ў кожнага медаля маецца і адваротны бок. «Калі працяглы час харызматычнаму лідару здраджвае поспех, — тлумачыць Макс Вебер, — і ў першую чаргу, калі яго кіраўніцтва не прыносіць дабрабыту падначаленым, дык яго харызматычны аўтарытэт можа знікнуць».

Як гэта адбываецца на практыцы, мы мелі магчымасць назіраць на прыкладзе Міхаіла Гарбачова і Барыса Ельцына.

Для палітыка важна апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы. Першыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі адбыліся летам 1994 года — гэта значыць, у момант, калі пікіруючая эканоміка дасягнула «дна». Адказнасць за пікіраванне будучы адзіны палітык, натуральна, не нёс.

У 1994 годзе ВУП скараціўся на 12,7%, у 1995-м — на 11,4%. Але ўжо 1996 годзе ВУП дадаў 2,8%, а ў 1997-м — на піку так званага «аднаўленчага росту» — галоўны эканамічны паказчык, насуперак прагнозам, падскочыў на 11,4%.

«Нулявыя» гады запомніліся беларусам устойлівым ростам рэальных даходаў. За 11 гадоў — з 2000 па 2010 — іх рост быў двухзначных на працягу 7 гадоў. Такая дынаміка даходаў не магла не адбіцца на падтрымцы АП. Аднак вось ужо чацвёрты год эканоміка ў мінусе ці паказвае рост на ўзроўні статыстычнай памылкі. Таму сёння АП не пазайздросціш. Ён вымушаны праводзіць бясконцыя нарады, кідацца па краіне і раздаваць шматлікія «каштоўныя ўказанні».

Але «чыстая харызма спецыфічна чужая эканоміцы». Макс Вебер мае рацыю, і таму ў снежні 2015 года толькі 5% беларусаў успрымалі народнага самародка як лідара, здольнага рэвалюцыйна пераўтвараць рэчаіснасць. Затое амаль удвая вырасла колькасць тых, хто ацэньвае былога харызматыка ў якасці чалавека, які не здольны перайсці ад словаў да справы.

Цікава, а як бы гэтыя перамены ва ўспрыманні АП грамадскай думкай пракаментаваў акадэмік А. Рубінаў?

## «Кветачкі» і «ягадкі» бюракратызму

Мабыць, немагчыма знайсці чалавека, у якога словы «бюракрат» і «бюракратызм» выклікалі б станоўчыя эмоцыі. Заснавальнік савецкай дзяржавы Уладзімір Ленін у гэтым сэнсе не быў выключэннем. Цытую: *«Все у нас потонуло в паршивом бюрократическом болоте ведомств... Ведомства — говно; декреты — говно»*.

Уся гісторыя савецкай дзяржавы ёсць гісторыя прыхаванай барацьбы кіруючай эліты з чыноўнікамі. У Беларусі прынята ганарыцца сваім савецкім мінулым, таму няма нічога дзіўнага ў тым, што «асобныя негатыўныя факты праявы бюракратызму ў дзейнасці дзяржаўнага апарату значна зніжаюць магчымасць нашага руху наперад» (цытату я запазычыў з Дырэктывы №2 «Аб мерах па далейшай дэбюракратызацыі дзяржаўнага апарату», падпісанай АП 27 снежня 2006 года).

Пад бюракратызмам на пабытавым узроўні прынята разумець канцылярshчыну, цяганіну і адпіскі. Спадзяваўся, што чыноўнікі з такімі характарыстыкамі рэалізуюць тэзіс «дзяржава для народа», могуць толькі надзвычай наіўныя людзі. Аднак бюракратызм у яго традыцыйным разуменні — гэта толькі «кветачкі». Што тычыцца «ягадак», дык яны багата спеюць на ніве права чыноўнікаў усіх узроўняў прымаць рашэнні «імем рэвалюцыі». За прыкладамі сучасным рэвалюцыянерам хадзіць далёка не трэба.

«Рэвалюцыя, — тлумачыць філосаф Аляксандр Рубцоў, — заўсёды парушае закон, і ў гэтым сэнсе яна заўсёды злачынная, але, калі яна прыпыняецца, дык саступае месца новай форме. Рэвалюцыі на Захадзе былі не больш чыстым і не больш гуманнымі за нашу, але яны былі эпізодамі, а не спосабам існавання. У нас жа краіна дзесяцігоддзямі можа жыць з аформленымі актамі ўлады, што ўсё гэтак жа злачынна парушаюць вышэйстаячыя, у тым ліку канстытуцыйныя, нормы — або зусім без лішніх фармальнасцяў».

«Ёсць у Рэвалюцыі пачатак. Няма ў Рэвалюцыі канца!» У Беларусі яго і не будзе, пакуль гарант Канстытуцыі, правоў і свабод грамадзян (артыкул 79 Асноўнага закона) прымае рашэнні «імем рэвалюцыі». А прымаць рашэнні такім арыгінальным для мірнага часу спосабам гаранта надзяліла... Канстытуцыя, паводле якой ён не ўваходзіць ні ў адну з галін улады, а стаіць над імі — такім чынам, і над законам.

Мноства перуноў і маланак, якія АП з зайздроснай рэгулярнасці кідае на адрас бюракратаў, не здольныя скончыць перманентную рэвалюцыйную сітуацыю ў геаграфічным цэнтры Еўропы, бо апорай манаполіі АП на ўладу можа быць толькі бюракратыя, якая мае не меншую патрэбу ў такой манаполіі, чым яна ў ёй.

Усё лагічна і паслядоўна. «Беларуская мадэль» па-свойму дасканалая і гарманічная. Усе яе ўзроўні пранізвае ўладная «вертыкаль», у якой бюракратыя надзяляецца не толькі правам прадстаўляць агульныя інтарэсы, але і магчымасць бескантрольна выкарыстоўваць сваё становішча для абслугоўвання ўласных інтарэсаў.




**ЯКІМ ВАМ УЯЎЛЯЕЦЦА ВОБРАЗ ЦЯПЕРАШНЯГА ПРЭЗІДЭНТА?* (У ПРАЦЭНТАХ АД КОЛЬКАСЦІ АПЫТАНЫХ)**

| Варыянт адказу | 01'07 | 06'11 | 12'15 |
|---|---|---|---|
| Ён павольна, але няспынна ідзе па шляху рэформаў да мэты | 39 | 23 | 26 |
| Ён папросту імкнецца ўмацаваць сваю ўладу | 23 | 36 | 27 |
| Ён імкнецца захаваць ранейшую сістэму кіравання | 13 | 19 | 23 |
| Ён высоўвае лозунгі без канкрэтных дзеянняў | 8 | 13 | 15 |
| Ён якасна і рэвалюцыйна пераўтварае рэчаіснасць | 11 | 9 | 5 |
| Няма адказу | 6 | – | 4 |

* Дадзеныя НІСЭПД

# Віктар Мароз: «Чаму мужчына не можа цікавіцца зброяй?..»

« Працяг.
Пачатак на стар. 1

***— А як іншыя? Ты быў адзіночкам у падобных канфліктных сітуацыях?***

— Сябры падтрымлівалі, недзе спачувалі, калі нават не разумелі да канца. Каб нехта за мяне быў гарой у гэтых сітуацыях — такога не было. Пры гэтым, у нас усіх былі цудоўныя адносіны, узвод быў вельмі таварыскім. Дагэтуль я шмат з кім камунікую з хлопцаў: хоць я і не давучыўся да канца, яны мяне ўвесь час клічуць на сустрэчы выпускнікоў.

### Кузня ўніверсальных тэхнакратаў

***— Тыя, хто давучыўся, зрабілі вайсковую кар'еру?***

— Больш за палову акурат у «ваенку» не пайшлі. Нехта трапіў у інстытут замежных моваў: адзін хлопец фарсі і арабскую вучыў, цяпер працуе перакладчыкам пры адной з амбасадаў у краіне мусульманскага свету. Нехта на міжнародныя адносіны паступіў. У нашым узводзе сапраўды былі хлопцы з мазгамі. Нехта, канешне ж, абраў войска, спецназ... А я, калі сышоў, армію перастаў цікавіцца ў прынцыпе — як адсекла.

***— Калі з вучэльні ты сышоў у гімназію — кантраст адчуўся?***

— Не паверыце, але я моцна прасеў па ўсіх дысцыплінах — гімназічныя патрабаванні былі вышэйшымі. У Суворaўскай вучэльні быў прынцып: рабі па аналогіі, як баран, а ў гімназіі трэба было імправізаваць. Там — адзін з лепшых ва ўзводзе па той жа матэматыцы, тут — найгоршы ў класе. Хімія — тое самае.

***— Дык у Суворaўскай, здаецца, меўся быць упор на тэхнічныя дысцыпліны?***

— Там упор на дысцыпліну быў — проста на дысцыпліну. Калі добра ходзіш у шыхце, не маеш залётаў і касякоў, то давучышся нармальна. Былі ў нас і круглыя двоечнікі, якія наўпрост «забівалі» на вучобу: мы іх цягнулі ўсім узводам, рабілі дамашку, тлумачылі... Іх раскідвалі па ўзводах, раўнамерна, у кожным такія былі.

***— Насамрэч, з тваіх словаў складаецца дваістае ўражанне. З аднаго боку, слабая бездапаможная падрыхтоўка, з іншага — людзі пайшлі па міжнароднай лініі ці сталі афіцэрамі... Як так?***

— Не ведаю. Магчыма, нешта змянілася, калі я сышоў, таму гэта маё персанальнае ўражанне. Не магу сказаць, што там выкладалі зусім дрэнна, наўпраст усё было неяк... просталінейна — што па матэматыцы, што па гісторыі. Трэба завучыць, пераказаць — і ты круты! Магчыма, Суворaўская вучэльня папросту рыхтавала ўніверсальных тэхнакратаў, якія маглі б працаваць у сістэме, але творчая жылка ці самастойнае мысленне было для іх неабавязковым, а часам — шкодным.



Разам з сям'ёй падчас вучобы ў Суворaўскай вучэльні

### «Прыборка-прыборка-прыборка...»

***— Сучаснай Беларусі патрэбная Суворaўская вучэльня?***

— Ідэя выдатная, але выкананне жахлівае. Там не выхоўваюць патрыётаў. У нас хлопцы наогул не разумелі, хто яны, хто такі «беларус»... Адзін даводзіў, што ён рускі, хоць пакаленні яго продкаў адсюль, пасля ён з'ехаў у Расію. Гэта не элітныя кадры для беларускага войска, а незразумела што, постсавок. Вось гэта мне не падабалася моцна. Магчыма, нехта і стаў пасля Суворaўскай вучэльні элітай, за ўсіх не скажу, але... Занадта шмат «але».

***— Што можна было б змяніць да лепшага, як лічыш?***

— Гэта пытанне агульнай вайсковай рэформы, якая ўжо даўно наспела. Наша войска, на вялікі жаль, небаяздольнае і не мае будучыні, калі не пачаць нешта змяняць. Так, пасля Суворaўскай вучэльні я з заплюшчанымі вачыма разбіраў аўтамат Калашнікава, але... акрамя гэтага не ўмеў нічога. Навошта мне гэта тады? Я 2,5 гады разбіраў і збіраў АК, мыў падлогу, унітазы, займаўся пастаяннай прыборкай. Прыборка-прыборка-прыборка...

Магчыма, меў месца яшчэ і няўдалы эксперымент — і прычына ў гэтым. Маю на ўвазе, што бралі нас пасля 5-га класу, а не, скажам, пасля 9-га, калі хлопец ужо можа зразумець, што яму патрэбна.

***— А як бацька паставіўся да твайго сыходу?***

— Ён ад пачатку казаў: «Войска — гэта не тое, што ты думаеш». Тут бабуля хутчэй вельмі хацела, каб я вучыўся, бо дзед быў палкоўнікам. А бацька меў за плячыма інстытут замежных моваў, вайсковую кафедру, таму здаўна крытычна ставіўся шмат да якіх момантаў і не быў «ватнікам». Напрыклад, ён не падтрымліваў вайну ў Афганістане, бо тады яшчэ разумеў, што гэта такое. Таксама бацька, здаецца, яшчэ ў сярэдзіне 1980-х выйшаў з КПСС.

### «Мець вытворчасць у Беларусі — гэта ўтопія»

***— Чым займаўся пасля гімназіі?***

— Паступіў у БНТУ на кафедру па арганізацыі перавозак, спецыялізацыя — міжнародныя аўтамабільныя перавозкі. Бацька тады ўжо працаваў у авіяперавозках, ягоная цікаўнасць — грузавыя самалёты. Гэта акурат і паўплывала на мой выбар. Ведаеш, тут нечым падобная гісторыя, як і з Суворaўскай вучэльняй: пяць гадоў навучання мала што далі. Калі людзі хочуць займацца перавозкамі, найперш варта вучыць замежныя мовы, а рэшту можна засвоіць за дзесяць гадзін, а пасля на практыцы. Пяць гадоў лепш на мову было б аддаць.

***— Такім чынам, да сваёй спецыяльнасці ты сам дайшоў?***

— Атрымліваецца, што так. У 2010 годзе я паспрабаваў сябе ў бізнесе, некалькі было пачынанняў, недзе пайшло, недзе не. Ад 2013-га працаваў у будаўнічай сферы, займаўся продажамі. У Беларусі можна займацца паслугамі і продажамі. Мець вытворчасць у Беларусі — гэта ўтопія. Але не хочацца закранаць эканоміку, тут асобная доўгая размова...

### «Чорт падаткнуў заняцца стральбой...»

***— Што ў цябе са спортам?***

— У дзяцінстве брат прывіў любоў да баскетболу — я займаўся каля 7 гадоў. Гуляў у аматарскім клубе, але праз сур'ёзныя траўмы каленных суставаў адышоў ад гэтай справы. Акурат на той час прыпала паступленне ў БНТУ, таму лёгка пераключыўся — вучоба была важнейшая. Паралельна займаўся рукапашным боем. Пасля сыходу з Суворaўскай вучэльні мне патрэбная была дысцыпліна, бо я расслабіўся. Кантраст такі: у дзяцінстве дысцыпліна, а пасля раптам свабода... і панеслася «душа ў рай», пайшоў не па той дарожцы. «Рукапашка» акурат апынулася дарэчнай.

Пасля, у 2013-м, захапіўся рэгбі, бегаў з хлопцамі. Ну і... чорт падаткнуў заняцца стральбой (смяецца). Да зброі заўжды добра ставіўся, любіў, у мяне атрымлівалася. На пачатку 2015-га стаў паляўнічым і набыў зброю. Выязджаў страляць у спорцінг-клуб. Напярэдадні арышту, у лютым 2017-га, хацеў пайсці яшчэ на практычную стральбу з пісталета. І нешта мне падказала: не трэба. Я ўжо падаў дакументы, мяне ў групу запісалі, быў гатовы грошы плаціць, усё... і нешта перадумаў: лепш летам!

***— Лічыш, магло б табе нашкодзіць?***

— Мо' і добра, што так атрымалася, інакш быў бы давесак следчым, маўляў, рыхтаваўся да чагосьці... незразумела да чаго. Дакладней, зразумела толькі людзям у пагонах. А я вось не разумею, чаму мужчына не можа любіць страляць, чаму? Я люблю. Я хацеў і на паляванні хадзіць, і проста страляць. Гэта ж драйв! Мяне забралі ў СІЗА 3 красавіка ўжо, апошнім з хлопцаў. Я тады акурат збіраўся на паляванне на гусей ісці.

***— Калі забіралі знаёмых, не думаў, што за табой прыйдуць?***

— Я нават не зразумеў, чаму іх забіралі. Сябраваў з некаторымі з даўніх часоў, гэта праўда. Большасць жа фігурантаў не ведаў у прынцыпе, пазнаёміліся толькі калі з СІЗА павыходзілі. Зараз усіх ведаю *(смяецца)*.

### «Тата ў камандзіроўцы»

***— Як на табе і тваёй сям'і адбілася гэтая гісторыя?***

— Для маёй жонкі гэта быў моцны стрэс. Нават калі я на інтэрв'ю ішоў да цябе, патэлефанаваў ёй, яна кажа: «Не, лепш адмоўся! Раптам што не так скажаш...» *(смяецца)*. Яна не разумее... нічога не разумее. Яна ніколі з падобным не сутыкалася, таму цалкам дэзарыентаваная, абураная. У выніку, пачаліся праблемы са здароўем. Таму — лечымся, прыводзім думкі ў парадак. А яшчэ сын, 4 гады...

***— Ён гэтую гісторыю па-свойму адпакутаваў?***

— Калі ўсё закруцілася, яму тры з паловай было, троху меней. Для яго гэта было шокам і моцнай псіхалагічнай траўмай. Калі прыходзілі з вобшукамі, Ярамір спужаўся моцна... доўгі час «дзядзяў» баяўся — не тое, каб у масках, проста мужыкоў! Заікаўся нават нейкі час — каля 2 месяцаў, жонка супакойваючыя давала. Зараз прайшло. Ён жа наогул не ведаў, дзе я, — думаў, што тата ў камандзіроўцы...

***— Што далей?***

— Першае, што хачу, гэта з'ездзіць з сям'ёй у адпачынак. Бо мы адкладалі адпачынак акурат на гэтае лета, але... адпачыць атрымалася толькі ў мяне. Прычым так «адпачыць», што сям'я аддала на гэта ўсе рэсурсы — такі незабыўны адпачынак *(смяецца)*.

***— Збіраешся змяняць род занятках?***

— Не ведаю, паглядзім. Пакуль нічога не зразумела: сядзім і чакаем з ліпеня, як выйшлі з СІЗА. Нечым новым пачынаць займацца зараз — у пустую. А калі прыйдзецца вяртацца туды?.. Будзе, як будзе.

Фота з архіву
Віктара Мароза

*__P.S.:__ Супраць былога фігуранта справы аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў («Справы патрыётаў») Андрэя Бяляўскага распачатая крымінальная справа: нібыта, падчас ператрусу пры затрыманні ў яго быў знойдзены агнястрэльны боепрыпас.*

*Як стала вядома праваабаронцам, справа распачатая 27 лістапада цэнтральным апаратам Следчага камітэту РБ, піша spring96.org. Менавіта ў гэты дзень СК «паставіў кропку» і спыніў крымінальны пераслед усіх фігурантаў справы так званага «Белага легіёну». Аднак з'явіліся новыя акалічнасці.*

*Паводле неафіцыйнай інфармацыі, ёсць яшчэ адзін падазраваны ў захоўванні боепрыпасаў з ліку тых, каго падазравалі ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. Сітуацыя высвятляецца.*

*Магчымае пакаранне па гэтым артыкуле — папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў або арышт на тэрмін да шасці месяцаў, або абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.*

*Мастак-дызайнер з Мінска Андрэй Бяляўскі быў затрыманы 28 сакавіка і абвінавачаны па частцы 3 артыкула 293 Крымінальнага кодэксу «Навучанне і падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках». Адпушчаны з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе быў 2 чэрвеня.*




# Кукурузная эпапея

Зінаіда ЦІМОШАК

**Мы ўжо пісалі пра тое, як каля падвор'я пенсіянеркі Антаніны Лазоўскай калгасны трактар пры заворванні пустуючага поля паламаў частку агароджы, пасадзіў кукурузу сярод трускалак другой пенсіянеркі, пераараў адзіную дарогу, якая вяла ад дому 80-гадовай пенсіянеркі Ларысы Спіцынай. А скончылася тая гісторыя вельмі цікава. Яна заслугоўвае таго, каб стаць тэмай для камедыі з 5 частак.**

### 1-я серыя: «Кукуруза. Пачатак»

У чэрвені каля невялічкай вёскі Аксаміты мітусяцца трактары і розныя спецыялісты — узворваюць былую пашу і нізіну, дзе застойваецца вада. Пры гэтым трактары ўзворваюць адзіную дарогу, якая злучае дом на ўскрайку з вёскай, аруць зямлю побач з градкамі трускалак і цыбулі. Дарэмна жыхары вёскі спрабуюць давесці да кіраўніцтва «Грозава» ВУП «ПрыёртрансАгра» марнасць намаганняў трактарыстаў і спецыялістаў засеяць участак зямлі, з якой ніколі не ўдавалася сабраць ураджай з-за яе забалочанасці. У размове з карэспандэнтам НЧ старшыня прадпрыемства марыць пра будучы высокі ўраджай, каларыйную ежу для кароў і высокія ўдоі.

Чакаем рэкорднага ўраджаю!

### 2-я серыя: «Вяртанне да цывілізацыі»

Пасля нервовых перамоў і перапіскі кіраўніцтва прадпрыемства дае распараджэнне вярнуць цётцы Ларысе (Спіцынай) дарогу ў вёску, прывезці цётцы Тоні (Лазоўскай) новыя слупы для плоту замест паваленых падчас ворыва. А яшчэ запэўнівае, што не рассыпае пестыцыды ў 50 метрах ад іх платоў і што робіць усё толькі згодна з санітарнымі нормамі і правіламі суседства сельскагаспадарчых зямель з населенымі пунктамі.

За дарогу і слупы — дзякуй! А вось наконт пестыцыдаў не верым.

# «Такой была Польшча

Зінаіда ЦІМОШАК

**Праблема развіцця грамадскага самакіравання, самазанятасці насельніцтва цяпер надзвычай актуальная для нашай краіны.**

З-за аўтарытарнай улады, як у цэнтры, так і ў рэгіёнах велізарныя грошы бескантрольна марнуюцца на праекты, у якіх зацікаўлена сама ўлада, але не народ. Для таго, каб людзі займелі жаданне кантраляваць бюджэт, патрэбна змена менталітэту.

Бургамістр польскага горада Злаценец Кшыштаф Захаржэўскі мае пэўны пазітыўны досвед, як змяняць менталітэт сваіх выбаршчыкаў.

Грамадскія актывісты Брэста і Мінска, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных органаў кіравання 2 і 3 снежня мелі магчымасць пазнаёміцца з бургамістрам Захаржэўскім і яго рэформамі ў галіне мясцовага самакіравання. Арганізатарамі мерапрыемства сталі цэнтр грамадскага кіравання «СІМПА» і грамадская культурная кампанія «Будзьма беларусамі».

Паводле адукацыі Кшыштаф Захаржэўскі — філосаф. Ён доўгі час узначальваў мясцовую асацыяцыю па развіцці грамадскай актыўнасці. На мясцовых выбарах у 2014 годзе Кшыштаф Захаржэўскі здолеў перамагчы і стаў бургамістрам 15-тысячнага горада Злаценец.

Адзін з самых сучасных бургамістраў Польшчы лічыць прыярытэтным накірункам для інвестыцый укладанне ў чалавечы капітал, а асноўнымі прынцыпамі працы мясцовай улады — адкрытасць, дступнасць, крэатыўнасць.



— Перамога на выбарах для мяне была нялёгкай, бо папярэдні бургамістр меў вялікі досвед кіравання і ў яго была зладжаная адміністратыўная каманда, — дзеліцца Кшыштаф Захаржэўскі. — Але ў мяне была ідэя, і яна перамагла. Падчас выбараў я пераконваў жыхароў, што іду ў кіраўніцтва не дзеля кар'еры і грошай, а дзеля рэалізацыі планаў. Паабяцаў жыхарам такія новыя падыходы ў кіраванні, як празрыстасць, даступнасць і крэатыўнасць. Незвычайным для выбарцаў стала і тое, што я не з'яўляюся чальцом ніякай палітычнай партыі і таму меў магчымасць без уплыву якой палітыкі рэалізоўваць выключна інтарэсы жыхароў.

Цяжэй за ўсё было з чальцамі Рады, бо з 15 чалавек мяне спачатку падтрымлівалі толькі пяцёра. Запрасіў усіх да сябе і прапанаваў думаць не пра грошы, а пра час, які будзе прысвечаны развіццю горада і пра размеркаванне абавязкаў такім чынам, каб кожны змог рэалізаваць сябе дзеля карысці горада.

**У мяне была ідэя, і яна перамагла. Я пераконваў, што іду ў кіраўніцтва не дзеля кар'еры і грошай, а дзеля рэалізацыі планаў. Я не чалец партыі, і таму магу рэалізоўваць выключна інтарэсы жыхароў**

У выкананне сваіх праграмных абяцанняў наконт празрыстасці новая адміністрацыя размясціла інфармацыю аб бюджэтных выдатках у свабодны доступ, каб кожны чалавек мог азнаёміцца з расходнымі і даходнымі артыкуламі бюджэту. Дадаткова гэтыя звесткі сталі выдаваць у выглядзе невялікага бюлетэня.

Таксама была створана адмысловая газета, якую рэдагуюць самі жыхары горада. Тут змяшчаецца шмат інфармацыі наконт працы прыходу, органаў кіравання, школ, медыцынскіх устаноў. На першай старонцы можна знайсці «Калонку бургамістра», у якой закранаюцца праблемы, што цікавяць горад. Гэта газета выдаецца бясплатна і распаўсюджваецца ва ўсім павеце. Пасяджэнні Рады запісваюцца з тым, каб кожны грамадзянін меў магчымасць праслухаць любую частку, якая яго зацікавіць.

Таксама грамадзяне могуць прыходзіць на пасяджэнне і выступаць па тых праблемах, якія іх хвалююць. Шырока выкарыстоўваюцца і магчымасці інтэрнэту. Існуюць рубрыкі «Пытанне бургамістру», «Рубрыка праблем», пра якія жыхары могуць інфармаваць на партале. Дарэчы, кожны чалавек мае права прапанаваць свой праект далейшага развіцця горада. Па гэтых праектах пасля адбываецца народнае галасаванне і выбіраецца пераможца.

Да прыкладу, праграма «Рэвіталізацыя» («Вяртанне да жыцця») была створана менавіта звычайнымі людзьмі. У выніку на тэрыторыі гміны ўтварыліся 9 супольнасцяў, і кожная вёска атрымлівае грошы, адпаведна колькасці жыхароў. Яны самі вырашаюць, куды патраціць гэтыя грошы з пункту гледжання грамадскіх патрэб.

Сваю работу бургамістрам новы кіраўнік пачаў з грамадскай акцыі — прыборкі і добраўпарадкавання зарослай тэрыторыі вакол пажарных службаў.

— Праз 4 гадзіны гэтую тэрыторыю было ўжо не пазнаць, і там зараз ёсць цудоўная



# ў вёсцы Аксаміты



**3-я серыя: «Ура! Кукуруза ўзышла і зазелянела»**

Адной ліпеньскай ноччу калгасныя каровы ўцякаюць ад заснуўшага пастуха, драсуюць і з'ядаюць цэлую паласу найлепшых пасеваў каля самай вёскі. Бабулькі шэпчуцца, што гэтых кароў паслаў Бог як нябесную кару за несправядлівасць у адносінах да вяскоўцаў і кукурузны «канцлагер». Але, баючыся, што калгаснае кіраўніцтва палічыць іх вінаватымі ў скошванні часткі кукурузы, дакладваюць старшыні прадпрыемства накont сапраўдных віноўнікаў здарэння.

Часткі кукурузы ўжо няма, але каровы задаволеныя.

**4-я серыя: «Кукуруза і вяскоўцы чакаюць уборкі»**

Жнівень — верасень. Кукуруза ўсё ж вырасла. Вяскоўцы змірыліся з высокім кукурузным плотам, абмяркоўваюць магчымы высокі ўраджай і добры высакаякасны сенаж. Паколькі стаяць ясныя і цёплыя дні, штодня чакаюць тэхніку, якая прыбярэ кукурузу ў нізінай мясцовасці. Тэхніка не прыязджае, а выконваючага абавязкі дырэктара «Грозава» ВУП «ПрыёртрансАгра» Аляксандра Дарошчанку чамусьці звальняюць з працы.

Той-сёй цягае кукурузу дахаты. Кароваў пільнуюць, і больш кукурузу ім не даюць есці. Ураджай нікому больш не патрэбны.

**5-я серыя: «Смерць кукурузы»**

Кастрычнік — лістапад. Кукуруза зніякавела, парыжэла і счарнела. У пачатку лістапада жыхары вёскі пачулі гул тэхнікі, якая зрабіла некалькі кругоў і ледзьве выехала з поля. 17 лістапада жыхары Аксамітаў пацікавіліся шматпакутным лёсам кукурузы каля вёскі.

Новы дырэктар «Грозава» ВУП «ПрыёртрансАгра» Іван Фёдаравіч Кавальчук у воснай размове запрасіў старых людзей дапамагчы сабраць ураджай. Аграном прадпрыемства Дар'я Рудзеня бадзёра гаворыць карэспандэнту НЧ, што ўсё ідзе згодна з планам, кукурузу яшчэ скосяць і пусцяць на сенаж для кароў.

Жыхары даводзяць дырэктару, што яны ўжо старыя, не могуць збіраць пачаткі, і просяць пасля заворвання залужыць былую пашу ў нізіне, каб вярнуць вёсцы прыгажосць.

Былая заслужаная даярка пенсіянерка Людміла Дарашэвіч шкадуе кароў, якім наканавана есці чорную падгніўшую кукурузу. А маглі б зялёненькай паесці, каб не пільны пастух.

Канец фільма.

**Цітры:**

Кіраўніцтва філіяла «Грозава» ВУП «ПрыёртрансАгра» ўсё ж такі ўкапала цётцы Тоні новыя слупы. Утрамбавала частку зааранага поля пад дарогу. І нават сыпанула ў нізінку пяску. Выконваючы абавязкі дырэктара Аляксандр Дарошчанка таксама звярнуўся да ДК «Капыльскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі» з запытам накont магчымай санітарна-ахоўнай зоны паміж населенымі пунктамі і сельгасземлямі, на якіх распыляюцца хімікаты.

# ў 1960-я»

пляцоўка, на якой пажарнікі праводзяць розныя цікавыя мерапрыемствы для дзяцей і дарослых па пытаннях супрацьпажарнай бяспекі, — распавёў бургамістр. — Зараз сумесна з насельніцтвам і падтрымкай СМІ рэалізуецца шмат праектаў. Людзі бачаць, што калі праблемы агучваюцца, яны пачынаюць вырашацца. Цэнтральнаму ўраду таксама даводзіцца ісці на саступкі і выдаткоўваць грошы на рэалізацыю розных сацыяльных праграм. Зразумела, калі людзі прыходзяць і наўпрост гавораць: «Дай грошы!», я ім адказваю, што бюджэт абмежаваны. Але калі людзі прыходзяць і распавядаюць, што яны ўжо зрабілі дзеля выканання свайго праекта, і аргументуюць важнасць далейшай працы, тады грошы выдзяляюцца.

Зараз у горадзе распачася адмысловая праграма «Маніторынг». Кіраўніцтва горада папрасіла гараджан паназіраць за грамадскімі месцамі. Калі хтосьці знарок псуе дарожны знак, лаву на прыпынку альбо ў скверы, іншае абсталяванне — можна патэлефанаваць па адмысловым нумары і атрымаць за гэта ўзнагароду.

Бургамістр Злаценца надае вялікую ўвагу развіццю грамадскай актыўнасці людзей у планаванні будаўніцтва новых аб'ектаў і далейшай запатрабаванасці пабудаванай інфраструктуры.

— Калі людзям патрэбна для заняткаў якая-небудзь зала, хай яна ўзнікне па патрабаванні саміх людзей, а не па жаданні адміністрацыі, — выказвае думку кіраўнік. — Трэба будаваць тое, чым людзі будуць карыстацца, і што будзе імі запатрабавана. Тады яны адчуваюць большую адказнасць за рэнтабельнасць аб'ектаў.

Закрануў кіраўнік Злаценца і эканамічныя праблемы рэгіёна. Паводле яго словаў, на тэрыторыі павета зараз не існуюць буйныя прадпрыемствы. Каб заахвоціць моладзь не пакідаць рэгіён, запрацавала адмысловая праграма па будаўніцтву цэлага мікрараёна. З бюджэту выдзяляюцца грошы на будаўніцтва індывідуальных дамоў для маладых сем'яў. Малады чалавек мае 80% бясплатнага бонуса з гэтых грошай і абавязаны за тры гады пабудаваць дом.

Праблема па аплаце камунальных паслуг беспрацоўным вырашаецца з кожным у індывідуальным парадку. На сацыяльнае забеспячэнне і адукацыю ў рэгіёне выдаткоўваецца 25%. Гэта вялікія грошы, і іх трэба рацыянальна выкарыстоўваць.

Мала даць магчымасць пабудаваць дом, трэба думаць і пра тое, чым людзі зоймуцца ў гэтай мясцовасці.

У бургамістра ёсць адказы і на гэтае пытанне:

— Я не магу даць усім людзям працу і заробак, але я магу паспрыяць развіццю прадпрымальніцтва ў рэгіёне і самазанятасці людзей, — гаворыць Захаржэўскі. — Дзеля гэтага трэба скарыстаць і ўмовы, якія дала сама прырода для развіцця бізнесу і турызму.

Да прыкладу, рэгіён багаты на азёры, рэкі. Дзеля прыцягнення турыстаў надаецца ўвага развіццю рыбнага турызму, будуецца турыстычная інфраструктура, з'яўляюцца новыя працоўныя месцы. Нават ладзяцца адмысловыя рыбныя святы, на якіх вучаць, як правільна лавіць рыбу, смачна прыгатаваць яе і нават прыгожа з'есці.

Існуе каталог ідэй для развіцця горада і рэгіёна, якія на 60% фінансуюцца Еўрасаюзам.

Шмат ідэй рэалізуецца для моладзі.

— Хацелася б, каб маладзёны навучыліся паважаць месцы, дзе яны жывуць, ведалі гісторыю свайго краю. З гэтай мэтай была створана гульня «Спазнай свой рэгіён». У ходзе гульні было ажыццёўлена шмат гістарычных экскурсій па розных вёсках, пры гэтым гідамі выступілі жыхары вёсак. Узнікла цікавасць да гісторыі, нават суперніцтва. Пасля з праекта было зроблена больш за 500 настольных гульняў, якія былі раздадзены жыхарам.



**„Я не магу даць усім людзям працу і заробак, але я магу паспрыяць развіццю прадпрымальніцтва ў рэгіёне і самазанятасці людзей. Дзеля гэтага трэба скарыстаць і ўмовы, якія дала сама прырода для развіцця бізнесу і турызму**

Цікавымі для моладзі атрымаліся геаграфічныя конкурсы, аўтобусныя і роварныя экскурсіі, курсы «першай дапамогі» для тых, хто аказвае паслугі, музычныя фестывалі, стварэнне буйной гарадской кнігарні і многае іншае.

Прысутныя на сустрэчы задавалі шмат пытанняў бургамістру, у тым ліку пра тое, ці змог бы ён рэалізаваць столькі ідэй, каб быў рэгіянальным кіраўніком у Беларусі.

— Мы з вамі жывём у розных рэальнасцях. На мой погляд, такой была Польшча ў 1960-я гады, — сказаў Захаржэўскі. — У Польшчы на пасадзе бургамістра я маю вялікую самастойнасць, і магу ёй карыстацца. Але некаторую частку сваіх праектаў, мяркую, здолеў бы выканаць і ў Беларусі. На працягу 5 гадоў мы з сябрамі ездзім у памежную Беларусь на роварах дзеля адпачынку «дзікімі людзьмі». У Польшчы ўжо не засталося тэрыторый, па якіх можна ехаць цэлы дзень і не сустрэць прыкмет цывілізацыі. У вас цудоўныя тэрыторыі для развіцця велатурызму, неблагія дарогі. Ціхія і бяспечныя месцы. Цудоўныя гасцінныя людзі ў вёсках — запрашаюць папіць бярозавага соку, паесці грыбной салянкі. Нават паказалі, дзе можна купіць самагону.

Адна жанчына фактычна выратавала нам жыццё, запрасіўшы падчас навальніцы ночыць да сябе ў дом. Пасля мы пабачылі, што дрэва, пад якім стаяў наш намёт, было зрэзанае маланкай.

Лічу, што ў вас не скарыстаны вялікі патэнцыял. Напрыклад, каля вашых «неперспектыўных вёсак» ёсць шмат урадлівай зямлі, дзе можна было б разводзіць кветкі і займацца пчалярствам. У людзей была б цікавасць да добраўпарадкавання малых вёсак і пражывання там. Але дзеля гэтага трэба распрацаваць праграму і даць людзям грошы, прытым немалыя.

Дарэчы, у Беларусі ёсць цікавы накірунак для еўрапейцаў — агратурызм. Тут дзяржаве трэба заахвочваць любую ініцыятыву. Прыязджалі б турысты, стомленыя ад урбаністычнай цывілізацыі. Ёсць цікавасць менавіта да драўляных дамоў і вясковага жыцця.

Трэба сыходзіць з умоў кожнага рэгіёну і напоўніцу скарыстоўваць яго асаблівасці.

А беларускім рэгіянальным кіраўнікам я б пажадаў развіваць самакіраванне і актыўна супрацоўнічаць з грамадзянамі, укладаць інвестыцыі ў развіццё чалавечага патэнцыялу людзей і адбудоўванне грамадскай сферы. Не бургамістр (мэр), а людзі павінны працаваць над ідэямі развіцця рэгіёну. Пры гэтым трэба скарыстоўваць прынцыпы даступнасці, адкрытасці і празрыстасці, працаваць не дзеля кар'еры, а дзеля росквіту той зямлі, якая дае магчымасці праявіць сябе. Трэба памятаць, што галоўны скарб — гэты людзі.

Грамадскім актывістам, нягледзячы на агульнавядомыя цяжкасці, пажадаю рухацца наперад. Наўрад ці кожны чалавек можа глабальна змяніць свет.

Варта займацца тым светам, на які мы можам зрабіць уплыў. Патрэбна, на мой погляд, не разбураць рэчаіснасць, не навязваць супрацу, а ствараць новую рэчаіснасць, шукаць магчымасці для супрацоўніцтва. І пачынаць варта з малога. Бо нават малыя рэчы для некаторых людзей могуць стаць вялікімі, ды і свет, і само жыццё, урэшце, складаюцца з драбніц.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Канец манархіі?



Навіну пра вяселле брытанскага прынца Гары і амерыканскай актрысы Меган Маркл шматлікія медыя разглядаюць як пачатак трансфармацыі Вялікабрытаніі ў рэспубліку. Прэса піша, што ўваходжанне Маркл у каралеўскую сям'ю канчаткова падарве сакральную элітарнасць, якая была фішкай брытанскай манархіі. Уся біяграфія і паходжанне будучай прынцэсы менш за ўсё нагадваюць радавод арыстакраткі. Яе маці была афраамерыканкай, якая працавала сацыяльным работнікам. У бацькі — ірландскія карані, а якраз ірландцы доўгі час былі заклятымі супернікамі Англіі. Да таго ж будучая прынцэса ходзіць у касцёл, што супярэчыць традыцыі брытанскай манархіі (англійскі кароль з'яўляецца і кіраўніком англіканскай царквы). І, нарэшце, вішанька на торце — Маркл ужо была замужам. Увесь гэты букет, на думку брытанскіх СМІ, канчаткова пахавае аўтарытэт манархіі сярод простых англічан, праклаўшы дарогу да рэспублікі. Як тут ні ўзгадаць, што ў свой час адна амерыканка ўжо выклікала вялікі крызіс у каралеўстве. У 1936 годзе спадчыннік прастола Эдуард адрокся ад кароны, каб узяць шлюб з разведзенай амерыканкай Уоліс Сімпсан.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Цуд мае імя

У Таджыкістане прадстаўлена першая тэатральная п'еса «Абраны» пра кіраўніка рэспублікі Эмамалі Рахмона. Сярод іншых дзеючых асоб — сваякі Рахмона, палітыкі, натоўп і нават паклёпнікі. Апошнія сядзяць у кутах сцэны і па ходзе дзеяння крытыкуюць крокі Рахмона. Што тычыцца сюжэту, то п'еса прысвечаная прыходу Рахмона да ўлады, да чаго прыклаў руку і нейкі анёл. Зрэшты, нават анёл кажа, што прыход Рахмона ва ўладу — гэта цуд. Пазней той жа анёл дапамагае новаабранаму кіраўніку перамагчы апазіцыю і дае яму шэраг каштоўных парадаў. Усяго ў п'есе цэлых 12 актаў. У фінальнай сцэне Эмамалі Рахмон выяўлены ўжо салідным палітыкам. З трыбуны ААН гучыць яго голас, а ўвесь свет слухае. Паводле задумы аўтара, такім чынам дэманструецца, што Эмамалі Рахмон дасягнуў сусветнага прызнання і ператвараецца ў глабальнага палітычнага дзеяча XXI стагоддзя. Пакуль ні адзін тэатр не выказаў жадання паставіць п'есу Абдугафора Абдуджабора — аўтара твора, але драматург не губляе надзеі.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Падвоеная дэкамунізацыя

Здзіслаў Сіпера, мазавецкі ваявода, найбольш заўзята падышоў да тапаграфічнай рэформы, якую праводзіць кіруючая кансерватыўная партыя «Права і справядлівасць» (PiS) з мэтай дэкамунізацыі назваў. Ваявода склаў свой варыянт новых назваў вуліц на падкантрольнай яму тэрыторыі, куды, у тым ліку, уваходзіць і Варшава. Пры гэтым чыноўнік ігнараваў тое, што мясцовыя ўлады ўжо змянілі многія назвы вуліц. На выхадзе атрымалася, што ў адным і тым жа горадзе розныя вуліцы носяць ідэнтычныя назвы. Напрыклад, у цэнтры Варшавы пасля рашэння ваяводы могуць з'явіцца дзве вуліцы імя Леха Качыньскага. Сталічная мэрыя ўжо падала суд на ваяводу. Найбольш уважліва за яго ініцыятывай сочаць таксісты, якія баяцца, што наяўнасць вуліц з аднолькавай назвай прывядзе да хаосу ў іх працы.

**Паводле польскай прэсы**

### ПРЫДНЯСТРОЎЕ. Хто абароніць незалежнасць Малдовы?

Улады непрызнанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі арыгінальна пракаментавалі рост кантактаў паміж Кішынёвам і Бухарэстам. Напрыклад, 1 снежня на парад у Бухарэст выправіўся кантынгент Малдоўскай нацыянальнай арміі. Краіны ўжо аб'ядналі электрасістэмы, пракладзены газаправод з румынскіх Ясаў — гэта альтэрнатыва расійскаму газаправоду. Ідуць сумесныя пасяджэнні ўрадаў. І ўсё гэта адбываецца на фоне чутак пра тое, што да стагоддзя румынскай анексіі Бесарабіі ў 1918 годзе будзе ўзнята пытанне пра вяртанне Малдовы пад кантроль Бухарэста. Называюцца нават канкрэтныя тэрміны: сакавік 2018-га. У сувязі з гэтым кіраўнік Прыднястроўя Вадзім Краснасельскі нечакана заўважыў, што ў выпадку рэалізацыі плана інкарпарацыі Малдовы ў склад Румыніі ён гатовы выступіць у ролі кіраўніка не толькі прыднястроўцаў, але і ўсіх малдаван. Праўда, з улікам моцнай расійскай прысутнасці ў рэгіёне, ператварэнне Цірасполя ў цэнтр адраджэння дзяржаўнасці Малдовы пакуль выглядае спрэчна.

**Паводле малдоўскай прэсы**

# Як стаць Напалеонам

*Алег НОВІКАЎ*

**Сорак гадоў таму Жан Бедэль Бакаса, дыктатар Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, каранаваўся тытулам імператара па прыкладзе Напалеона. Дэталі каранацыі дасюль шакуюць, а яе наступствы — добры ўрок для тых, хто фліртуе з аўтарытарнымі рэжымамі.**



Фота www.photochronograph.ru

Толькі зараз гісторыкі пачалі прызнаваць, што адной з самых вялікіх катастроф мінулага стагоддзя быў правал дэкаланізацыі ў Афрыцы. Надзеі на тое, што незалежнасць надасць краінам кантыненту імпульс для развіцця, хутка зніклі. Мясцовыя маладыя дэмакратыі трансфармаваліся ў брутальныя дыктатуры пад патранатам сусветных геапалітычных цэнтраў. Пекін, Масква, Парыж, Вашынгтон змагаліся паміж сабой рукамі лаяльных ім афрыканцаў, забяспечвалі бакі канфліктаў грашыма і зброяй.

Адзінае, чаго часам не хапала лакальным князькам і генералам, — нейкага крутога статусу, важнага элементу іх легітымнасці. Адсюль незвычайныя тытулы, якія прысабечвалі афрыканскія лідары, — «кароль Шатландыі» (Ідзі Амін ва Угандзе) або «Певень, які камандуе ўсімі курамі ў свеце» (Мабуту ў Заіры).

Але найбольшы комплекс непаўнавартасці, падаецца, быў у генерала Жана Бакаса з Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі (ЦАР). Яго шлях ва ўладу — дастаткова характэрны для тагачасных афрыканскіх дыктатараў: кар'ера ў каланіяльнай арміі, пасада кіраўніка Мінабароны пасля абвяшчэння незалежнасці ЦАР і, нарэшце, путч (1966), у выніку якога Бакаса абвясціў сябе прэзідэнтам.

За першыя 14 гадоў свайго кіравання новы гарант на фоне суседзяў асабліва не вылучаўся. Хіба што арыгінальна змагаўся з крыміналам. Злоўленых злодзеяў прэзідэнт асабіста збіваў у турме да смерці.

Славуты Бакаса стаў яшчэ адным адметным учынкам: у 1976-м — напярэдадні візіту Кадафі — Бакаса прыняў іслам, узяўшы імя Ахмед. Госць, які сімпатызаваў ісламу, ад радасці даў Ахмеду 2 мільёны долараў. Аднак не паспеў самалёт Кадафі прызямліцца ў Трыпалі, як Ахмед зноў вярнуўся ў хрысціянства.

Так ці інакш, адным цудоўным днём у 1976 годзе Бакаса абвясціў сябе імператарам накшталт Напалеона. І нацыянальнае радыё адразу паведаміла, што краіна цяпер перастала быць рэспублікай, а ператварылася ў імперыю пад кіраўніцтвам любімага імператара Бакаса Першага.

На гэтым гісторыя не скончылася. Бакаса вырашыў у дэталях паўтарыць каранацыю Напалеона, што адбылася 2 снежня 1804 года ў парыжскім Нотр-Даме. У якасці эрзацу Нотр-Дама ў горадзе Бангі была абраная частка стадыёна. Яе дэкаравалі пад парыжскі храм. Строі прысутных таксама нагадвалі фасоны пачатку XIX стагоддзя. Асабістую гвардыю Бакасы апранулі ў мундзіры напалеонаўскіх грэнадзёраў. Сам Бакаса, як і Напалеон у 1804-м, быў у 12-метровай мантыі, зробленай з футра гарнастаяў. Галаву афрыканскага Банапарта ўпрыгожвай залаты вянец.

Праўда, цалка скапіяваць цырымонію не атрымалася. На каранацыі не хапала Рымскага Папы. Менавіта Пантыфік у 1804 годзе абвясціў Напалеона Банапарта імператарам. Павел VI, кіраўнік Ватыкана ў 1974 годзе, карэктна адмовіўся ад запрашэння Бакасы нанесці візіт у ЦАР. У выніку Папу замяніў сам Бакаса, які ўрачыста абвясціў сябе імператарам. Пасля на яго галаву ўсклалі карону і далі ў рукі скіпетр.

**Адным цудоўным днём у 1976 годзе Бакаса абвясціў сябе імператарам. Нацыянальнае радыё адразу паведаміла, што краіна цяпер перастала быць рэспублікай, а ператварылася ў імперыю пад кіраўніцтвам любімага імператара Бакаса Першага**

На гэтым афіцыйная частка скончылася. Уся сталіца выйшла на вуліцы святкаваць каранацыю. На той час людзі яшчэ не ведалі, што ўрачыстасці каштавалі больш за 30 працэнтаў гадавога бюджэту краіны. Толькі касцюм Напалеона, зроблены для Бакасы ў Бельгіі, абышоўся ў 145 тысяч долараў. За адзін з алмазаў у імператарскай кароне даваўся заплаціць два мільёны долараў. З улікам таго, што сярэдні даход на аднаго чалавека ў ЦАР на той час складаў усяго 250 долараў на год, можна ўявіць эканамічныя наступствы каранацыі для эканомікі краіны.

Але ніякай эканамічнай катастрофы не адбылося. Усё дзякуючы генію новага імператара, які цудоўна ведаў, што замежныя спонсары заплацяць за ўвесь гэты банкет. «За ўсё, што адбываецца вакол, заплаціць французскі ўрад. Мы заўжды можам атрымаць адтуль грошы», — выхваляўся Бакаса. І не падмануў. Французскі прэзідэнт Валеры Жыскар д'Эстэн, якому была важна захаваць геапалітычны кантроль над краінай, пагадзіўся выкласці дваццаць мільёнаў долараў — менавіта столькі каштавала мерапрыемства.

Нават па стандартах тагачаснай Афрыкі, з'яўленне на мапе кантынента імперыі шакавала. Як пісала ў снежні 1977 года сенегальскае выданне «Afrique Nouvell», падзея «выклікае вялікі сум і сведчыць, як моцна кульгае Афрыка ў пошуках самой сябе». Амерыканская прэса пісала, што суседзі асцярожна спрабавалі давесці новаму імператару, што гэта ўжо занадта. Аднак той адказваў, што гэта толькі праявы зайздрасці. «У мяне ёсць імперыя, а ў вас няма», — аргументаваў Бакаса.

Аднак праіснавала імперыя нядоўга. Французскі спецназ у 1979 годзе зрынуў імперыю. Пераварот папярэднічалі чуткі пра тое, што Бакаса захапляецца канібалізмам. Сітуацыю ўскладніла і фатальная ініцыятыва імператара. Той увёў школьную ўніформу (натуральна, са сваёй выявай), вырабляць і прадаваць якую мела права толькі фабрыка, што належала кіраўніку дзяржавы. Каля 80 вучняў, якія пратэставалі, былі забітыя, што выклікала шок нават у былых спонсараў.

Праўда, французскім палітыкам падтрымка Бакасы каштавала ўсё роўна вельмі дорага. Напярэдадні да прэзідэнцкіх выбараў 1981 года прэса дазналася пра блізкія адносіны Бакасы і д'Эстэна, якому імператар-канібал дарыў алмазы. Шмат у чым той скандал адбіўся на выніках выбараў: Валеры Жыскар д'Эстэн прайграў Франсуа Мітэрану.


Фота www.androidmafia.ru

# Саўгас атакуе Крэмль

Алег НОВІКАЎ

**Фронтмэнам антыпуцінскай апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2018 года нечакана можа стаць Павел Грудзінін, камуніст, які кіруе саўгасам імя Леніна, што знаходзіцца пад Масквой.**

Грудзінін прайшоў шлях ад загадчыка механічнай майстэрні да дырэктара саўгаса. Ён размаўляе з электаратам на простай мове ды ўжывае папуліцкую рыторыку. Дастаткова згадаць папулярны раскручаны ў СМІ выраз Грудзініна: «Сіла краіны вызначаецца не колькасцю танкаў, а колькасцю дзіцячых калысак».

Саўгас Грудзініна — гэта сапраўдны эканамічны феномен, які называць «выспай сацыялізму». Паводле статуту, гэта звычайнае закрытае акцыянернае прадпрыемства, дзе акцыянерамі выступаюць працоўныя саўгасу. Пры гэтым дывідэнды не выплачваюць, а ўвесь прыбытак накіроўваюць на павышэнне заробатнай платы работнікаў і сацыяльную сферу. Для працаўнікоў саўгаса 50% кошту жылля аплачвае прадпрыемства, другую палову работнік выплачвае на працягу 15 гадоў — натуральна, без працэнтаў і пераплаты.

З іншага боку, некаторыя лічаць, што эканамічны геній Грудзініна — міф. Асноўная крыніца багацця саўгаса імя Леніна, маўляў, — геаграфія прадпрыемства. Саўгасныя землі практычна на вагу золата, паколькі знаходзяцца адразу за МКАД.

Дасюль не зразумела, што натхніла Грудзініна ісці ў прэзідэнты. Хаця дырэктар саўгаса даўно носіць дэпутацкі значок, яго больш ведалі як паспяховага прадпрымальніка. Такая пасіўнасць не падаецца дзіўнай, з улікам таго, што камуністы — кішэнная партыя Зюганава, які з 1996 года манапольна прадстаўляе партыю на выбарах кіраўніка дзяржавы.

Трамплінам у кандыдаты для Грудзініна стаў праймерыз прадстаўніка левых сілаў, які ўвосень абвясціў герой супрацьстаяння на Балотнай плошчы Сяргей Удальцоў, што быў вызвалены ўлетку з турмы. Дзіўным чынам ініцыятыва выклікала інтарэс. Удзельнічаць у праймерыз запісаліся практычна ўсе больш-менш вядомыя крытыкі пуцінскага рэжыму злева — ад анкамістаў да анархістаў.

Яшчэ больш дзіўнай сталася развязка. У фінал выйшлі не аксакалы левай палітыкі, а той жа Юрый Болдыраў, больш вядомы як адзін з экс-лідараў ліберальнай партыі «Яблоко». Праўда, у выніку Болдыраў прайграў Грудзініну 8 пунктаў.

Поспех дырэктара саўгаса стаў сігнальнай ракетай для антызюганаўскай апазіцыі ўнутры Кампартыі. Некаторыя філіі прынялі рэзалюцыі ў падтрымку кандыдатуры Грудзініна. «Грудзінін — гэта прыклад эфектыўнага кіраўніка народнага прадпрыемства той формы, за якую мы сёння выступаем», — гаворыцца ў рэзалюцыі алтайскай секцыі КПРФ. Важнай падзеяй стала нечаканая публікацыя ў цэнтральнай партыйнай газеце «Советская Россия», якая заклікала Зюганава даць шанец для новых асобаў.

Акрамя таго, першыя інтэрв'ю пераможцы паказалі, што Грудзінін можа пашырыць лагер сваіх прыхільнікаў. Ён, з аднаго боку, настальгуе па часах СССР, а з другога — крытыкуе дзяржаўную палітыку адносна бізнесу. «Мы павінны плаціць падаткі. Але падаткі гэтыя празмерныя, і прадпрымальнік, каб выжыць, пачынае іх «аптымізаваць». А потым прыходзіць улада і кажа: за тое, што ты не хацеў шмат плаціць, цяпер ты аддасі ўсё. У сучаснай Расіі ніякіх гарантый вашай уласнасці не існуе. Дзяржава ў нашай краіне — гэта галоўны рэйдэр», — абураецца Грудзінін у адным з інтэрв'ю.

Падабаецца яго імідж і палітычным тэхнолагам. «Міф Грудзініна можна добра прадаваць і сярод традыцыйнай базы партыі, і сярод жыхароў буйных гарадоў. Выступае і палемізуе ён добра. У адрозненне ад Ксеніі Сабчак і многіх іншых кандыдатаў у кандыдаты, пакідае ўражанне шчырага чалавека, які кажа тое, што думае. А ў наш час сімулякраў — гэта важная перавага», — мяркуе адзін з піяршчыкаў на старонках выдання «Федеральная пресса».

**«Міф Грудзініна можна добра прадаваць. Выступае і палемізуе ён добра. У адрозненне ад Ксеніі Сабчак, пакідае ўражанне шчырага чалавека. А ў наш час сімулякраў — гэта важная перавага»**

Засталося толькі адно пытанне: ці рызыкне сам Грудзінін ісці ў прэзідэнты аўтаномна ад Зюганава, для якога фурор дырэктара саўгаса — гучная аплявуха? Варта адзначыць, што кіраўнік КПРФ не патрапіў нават у дзясятку па выніках праймерыз.

Наконт магчымай бацькоўкі Грудзініна дасюль узнікаюць спрэчкі. Напрыклад, палітолаг Павел Сметанкоў кажа пра наяўнасць фактаў вельмі блізкіх прыватных адносін паміж Зюганавым і Грудзініным. На яго думку, максімум, што можа чакаць ад Грудзініна, — удзел у камандзе падтрымкі «дзядзькі Гены».

А вось левы публіцыст **Ілля Будрайціс** у каментары «Новаму Часу» сказаў, што Гудзілін абавязкова з'явіцца ў выбарчых бюлетэнях, бо яго будзе прасоўваць Крэмль:

— Відавочна, што Зюганаў не здольны падняцца на ўзровень хаця б 10% на сакавіцкіх выбарах. Стары ўжо, не можа прывесці на ўчасткі свой так званы «пратэстны электарат». Тады як Крамлём ясна пастаўленая задача падцягнуць яўку. У гэтых умовах, вядома, магчымы варыянт з новым «народна-патрыятычным» кандыдатам, які будзе рэзка атакаваць «ліберастаў», амерыканскі імперыялізм і заклікаць да аднаўлення Савецкага Саюза. Такі кандыдат мог бы пазмагацца за другое месца з Жырыноўскім, і ў цэлым захаваць вартае месца КПРФ у пуцінскай сістэме «імітацыйнай дэмакратыі». На жаль, у цяперашняй сітуацыі толькі рэальны правал КПРФ можа паставіць пытанне пра неабходнасць новай, ні арганізацыйна, ні ідэалагічна не звязанай з гэтым жывым трупам левай палітычнай сілай у краіне. Трэба, каб гэтыя выбары рэальна сталі для КПРФ і ўсяго «народна-патрыятычнага» паскуддзя апошнімі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Арлін Фостэр



Лідарка Дэмакратычнай юніяніcцкай партыі (DUP), якая прадстаўляе пратэстантаў Паўночнай Ірландыі і зараз уваходзіць ва ўрадавую кааліцыю ў Лондане, нанесла партнёрам удар у спіну.

Яе партыя нечакана заняла больш жорсткую пазіцыю наконт фармату выхаду Брытаніі са складу ЕС. Заява Фостэр прагучала 4 снежня падчас перамоваў у Брусэлі з удзелам прэм'ера Тэрэзы Мэй, што выставіла апошнюю ў вельмі камічным выглядзе. У выніку Мэй давялося адкласці перамовы і тэрмінова ляцець у Лондан, каб шукаць кампраміс з юніяністамі.

У цэнтры супярэчнасцяў паміж кансерватарамі і DUP — пытанне пра тое, як павінен выглядаць мытны рэжым на мяжы Ольстэра і Ірландыі, што з'яўляецца сябрам ЕС. Мэй, быццам, гатовая да дыскусіі на гэты конт, у той час як Фостэр патрабуе ўвядзення мытнага кантролю, які існуе паміж рознымі дзяржавамі.

Для юніяністаў пытанне мяжы — прынцыповае. DUP лічыць, што агульная мытная зона паміж Дублінам і Белфастам можа стаць першым крокам на шляху вяртання Ольстэра ў склад Ірландыі. Між тым, выкліканы DUP крызіс натхніў апазіцыю. Прычым, зараз гучаць галасы не толькі шатландскіх нацыяналістаў, якія таксама патрабуюць захавання агульнай гандлёвай прасторы паміж Шатландыяй і ЕС. Мэр Лондану Садзік Хан таксама паабяцаў дамагацца спецыяльнага аўтаномнага статусу для горада, што дазволіць яму застацца сябрам еўрапейскай гандлёвай зоны. Па яго словах, гэта дазволіць выратаваць працоўныя месцы для ста тысяч лонданцаў.

### Энгель Фатахаў



Экс-міністра адукацыі Татарстана зрабілі адказным за канфлікт вакол абавязковага выкладання татарскай мовы ў аўтаноміі. 4 лістапада Фатахаў падпісаў новы вучэбны план, які ўтрымліваў патрабаванне па-ранейшаму абавязкова вывучаць татарскую мову.

Па-сутнасці, гэта быў дэмарш супраць Пуціна, які напярэдадні выступіў за добраахвотны прынцып вывучэння мовы тытульных нацый аўтаномных рэспублік. На наступны дзень дэ-факта падпарадкаваная Маскве пракуратура Татарстана адмяніла пастанову Фатахава, што выклікала адкрыты канфлікт па лініі Масква — Казань. Частка казанскіх чыноўнікаў нават дасылала сігналы, што Пуцін можа не атрымаць у рэгіёне большасць галасоў на сакавіцкіх прэзідэнцкіх выбарах. Казань таксама абяцала павялічыць гадзіны ўрокаў рускай мовы, але пры гэтым захаваць і абавязковыя ўрокі татарскай.

Аднак у выніку перамагла Масква. Дэпутаты дзяржсавета Татарстана аднагалосна прагаласавалі за добраахвотнае вывучэнне татарскай у якасці дзяржаўнай мовы рэспублікі ў аб'ёме дзвюх гадзін на тыдзень. А 4 снежня рашэннем татарскага кіраўніка Рустама Мініханава міністра адукацыі знялі з пасады.

### Нікалас Мадура



Кіраўнік Венесуэлы вырашыў імпартаваць у краіну вопыт Паўночнай Карэі, дзе Мінабароны выконвае функцыі кабінету міністраў, і ў тым ліку кіруе эканомікай. Венесуэльскі гарант прызначыў кіраўніка Нацгвардыі генерала Мануэля Кеведу кіраваць Міністэрствам нафты.

У межах дырэктывы генерал таксама павінен прызначыць афіцэраў на ўсе асноўныя пасады ў дзяржаўнай нафтавай кампаніі PDVSA — вядучым нацыянальным экспарцёры. Нельга не адзначыць, што напярэдадні арыштавалі ўсю былую адміністрацыю кампаніі за растраты. Таксама функцыянераў падазраюць у кантактах з палітычнай апазіцыяй.

Усе свае ўчынкі Мадура пафасна назваў «новай нафтавай рэвалюцыяй», якая, маўляў, дазволіць вырашыць усе эканамічныя праблемы за кошт павелічэння здабычы і продажу нафты. Назіральнікі, між тым, разыходзяцца ў меркаваннях наконт падтэксту кадравай палітыкі кіраўніка краіны. Некаторыя кажуць, што ўлада намагаецца імітаваць барацьбу з карупцыяй, каб супакоіць электарат. Іншыя бачаць у гэтым кроку рэха апошніх падзей у Зімбабвэ, дзе вайскоўцы арганізавалі дзяржаўны пераварот. За кошт прызначэння генералаў на вельмі «цёплыя» пасады Мадура перастрахоўваецца ад фронды ў казармах і кансалідуе вакол сябе сілавы блок.

У любым выпадку, эксперымент з вайсковай адміністрацыяй наўрад ці выратуе кампанію, якая знаходзіцца на парозе дэфолту.



Фота «Радыё Свабода»

**29 кастрычніка 1937 года здарыўся самы чорны дзень у гісторыі беларускай літаратуры. За адну ноч з 29-га на 30-га карнікі НКУС расстралялі цэлую групу пісьменнікаў, сярод якіх былі Анатоль Вольны, Платон Галавач, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Міхась Чарот ды іншыя — агулам 22 чалавекі.**

# Механізмы Вялікага тэрору

Таццяна ПРОЦЬКА

**У БССР былі створаныя ўстойлівыя механізмы дзяржаўных рэпрэсій. Яны былі двух тыпаў. Першы — па ўказанні з Масквы, другі — па ўласнай ініцыятыве.**

Маскоўскі механізм, як правіла, уключаў пошук ворагаў па той ці іншай тэме ў маштабах СССР, мясцовы — вырашаў пытанні савецкага развіцця толькі ў БССР. Падчас Вялікага тэрору працавалі абодва механізмы.

## Па ўказцы з Масквы

У снежні 1938 года ў НКУС СССР на імя Берыі паступіла заява ад двух камсамольцаў з Мсціслава Магілёўскай вобласці — Ратчанка І. і Цітова І., якія працавалі ў раённай газеце. Камсамольцы пісалі, што пад заступніцтвам сакратара райкама КП(б)Б, рэдактара раённай газеты і начальніка раённага аддзялення НКУС у раёне «ў многіх галінах гаспадаркі дзеюцца варожыя справы». У гэты час ажыццяўлялася «чыстка» (такі выраз ужываўся ў дакументах) раёнаў СССР ад варожых элементаў, ліст разам з супрацоўнікамі НКУС з Масквы быў накіраваны ў НКУС БССР, які таксама накіраваў у Мсціслаў сваю праверку. У выніку была вызначаная «выключная засмечанасць раёна сацыяльна-чужымі і варожымі элементамі».

Паколькі камсамольцы скардзіліся на тое, што «варожым элементам» кіруюць першы сакратар райкама КП(б)Б, рэдактар раённай газеты і начальнік РА НКУС, праверку пачалі з разгляду іх дзейнасці. Два аператыўных супрацоўнікі НКУС, якія прыехалі з Масквы, усталявалі «развал раённай камсамольскай арганізацыі», «засмечанасць выкладчыцкага складу школ», «наяўнасць сярод школьнікаў зладзейскіх груп», былі ўсталяваныя выпадкі малявання дзецьмі фашысцкіх значкоў. Усё гэта адразу расцанілі як факты варожай дзейнасці настаўнікаў, сваякі якіх былі рэпрэсаваныя.

Было ўстаноўленае і шкодніцтва — на конезаводзе №120 за 1938 год загінула 5 жарабіц, 18 жарабят, 31 цяля і 35 парасятаў. У шкодніцтве былі абвінавачаныя ветэрынар завода і яго дырэктар. Апошняга абвінавацілі і ў здзеках з працоўных, бо ён штрафаваў работнікаў за тое, што тыя ў працоўны час, пасланыя для нарыхтоўкі драўніны для завода, нарыхтоўвалі дровы для сябе. На заводзе працавалі дзеці і падлеткі без згоды інспекцыі аховы працы.

У калгасах раёна было знойдзена парушэнне статута сельгасарцелі, «безгаспадарлівасць, якая даходзіць да шкодніцтва», павялічаныя звыш нормы прысядзібныя ўчасткі ў 490 калгаснікаў, 74 калгаснікі мелі карову звыш нормы. Былі выкрытыя факты страты збожжа пры ўборцы (калгас імя Юрчанка), падмярзанне выкапанай, але не складаванай бульбы.

Супрацоўнікі НКУС выявілі таксама вінаватасць службовых асоб раёна — сакратара райкама КП(б)Б, упаўнаважанага Камітэта нарыхтовак па Мсціслаўскім раёне, намесніка старшыні райвыканкама, старшыні райспажыўсаюзу. Усе яны былі абвінавачаныя таксама ў роднасці або кантактах з ужо асуджанымі «ворагамі народа».

Варта адзначыць, што выяўленнем шкоднікаў актыўна займаліся і кіруючыя камсамольцы. Так, сакратар ЦК ЛКСМБ Галоўкін асабіста ўдзельнічаў у раскрыцці контррэвалюцыйнай арганізацыі ў Мсціслаўскім раёне.

Віна рэдактара раённай газеты («Калгасная газета») была ў тым, што ён «займае згодніцкую пазіцыю ў адносінах да кіраўніцтва раёна, не ставіць прынцыпова пытанне перад імі па тых сігналах, што паступаюць у рэдакцыю».

НКУС БССР пачаў службовае расследаванне на начальніка раённага НКУС і агентурна-следчыя справы супраць выяўленых ворагаў, у дачыненні да негатыўнага стану партыйнай дзейнасці праінфармаваў першага сакратара ЦК КП(б)Б Пятра Панамарэнку.

Вядома, узнікае пытанне — чаму з тысяч лістоў, якія дасылаліся ў НКУС СССР і БССР пільнымі савецкімі грамадзянамі, быў абраны менавіта гэты ліст? Канкрэтных адказаў на гэтае пытанне архіўныя дакументы не ўтрымліваюць. Як правіла, маскоўскі механізм уключаўся тады, калі неабходна было знайсці спосабы ўздзеяння на рэспубліканскае партыйнае і гаспадарчае кіраўніцтва (кампрамат для змены непажаданых кіраўнікоў, для падтрымкі ў саюзных органах тых ці іншых праектаў і іншае). Або прыбраць тых, хто быў непажаданы рэспубліканскай уладзе, але, па тых ці іншых прычынах, быў для яе недасягальны. Гэты механізм дзейнічаў увесь час, пакуль існаваў СССР. Цікава, што ён заўсёды пачынаўся са зваротаў працоўных, а не па ініцыятыве ўлады.

## «Чорная ноч»

Беларускі механізм быў падобны на саюзны. 8 кастрычніка 1936 года чырвонаармеец 6-га палка 2-й дывізіі, сябра ВЛКСМ з'явіўся ў Асобы аддзел дывізіі і паведаміў, што ён даведаўся ад таварыша — палкавога настаўніка, з якім быў у блізкіх адносінах, студэнта Вышэйшага педагагічнага інстытута — пра тое, што ў Мінску існуе варожая антысавецкая арганізацыя, і пералічыў некаторых яе ўдзельнікаў. 9 кастрычніка на двух студэнтаў педінстытута данёс і сам настаўнік, які з'яўляўся асведамляльнікам асобага аддзелу дывізіі.

11 кастрычніка былі арыштаваныя адказны сакратар газеты «Піянер Беларусі» Ф.Клімёнак і студэнт 2-га курса літаратурнага факультэта педінстытута С.Шляхціч, а таксама асведамляльнік Сліжыкаў, які ў час не данёс пра існаванне арганізацыі. У выніку іх допытаў былі арыштаваныя яшчэ 8 чалавек — студэнтаў, выкладчыкаў педінстытута, супрацоўнікаў газеты. Выяўлена, што ўсе яны распавядалі «пахабныя контррэвалюцыйныя анекдоты, накіраваныя супраць партыі і ўрада» — «паўсюль, дзе гэта ўяўлялася магчымым — у рэдакцыі, інстытуце, на кватэры». Пасля допытаў новых арыштаваных, арыштавалі яшчэ 8 чалавек, сярод якіх супрацоўнік Белдзяржвыдавецтва Ракіта-Законнікаў, Белрадыёцэнтра — С. Грахоўскі. Далей была знойдзеная іх сувязь з ужо асуджанымі «нацдэмамі Мараковым, Дударам Аляксандрам». Заведзеная агентурная справа «Маладыя».

У працэсе распрацоўкі агентурнай справы былі арыштаваныя яшчэ 7 студэнтаў літфаку педінстытута, на 7 заявілі агентурныя справы. Крымінальная справа ўзнікла па раскрыцці «нацдэмаўскай антысавецкай, шпіёнскай, фашысцкай арганізацыі». Былі праведзеныя арышты ў газетах «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «ЛіМ»,«Іскра Ільіча», у Белдзяржвыдавецтве, Белдзяржкіно, Белрадыёцэнтры, у Акадэміі Навук, у Белдзяржуніверсітэце, у Вышэйшым педагагічным інстытуце, сярод пісьменнікаў.

Ужо на 3 лістапада «арыштавана пакуль 70 чалавек, у тым ліку пісьменнікі Сташэўскі, Зарэцкі, Вольны, Баранавых, Багун, Маракоў, Кляшторны. Іх арышт узгоднены з ЦК КП(б)Б. Усе яны, з пункту гледжання літаратурнай, каштоўнасці не ўяўляюць», — пісалася ў чарговай справаздачы аб праведзенай працы.

Па сведчаннях арыштаваных былі вызначаныя кіраўнікі арганізацыі — Зарэцкі, Вольны, Сташэўскі. У іх узялі паказанні, паводле якіх выявілі дачыненне да арганізацыі пісьменніка Цішкі Гартнага (Жылуновіча), была атрыманая санкцыя на яго арышт. З допытаў апошняга нібыта вызначылі сувязь «з украінскімі нацыяналістамі Хвільовым, Досвітнім, Палішчуком, Дняпроўскім, Курбасам, Вішняй, Ірчанам, Гільовым, Эпікам», якія «яшчэ ў перыяд 1930–1933-х гадоў дамовіліся аб усталяванні адзінага нацыяналістычнага фронту для барацьбы з савецкай уладай».

Далейшыя распрацоўкі прывялі да адкрыцця сумна знакамітай справы №9031 (кастрычнік 1937 года) па раскрыцці «нацыянал-фашысцкай тэрарыстычнай, шпіёнскай-дыверсійнай арганізацыі». Былі асуджаныя да 8–10 гадоў пазбаўлення волі, расстраляныя сотні прадстаўнікоў беларускай і беларуска-габрэйскай інтэлігенцыі, у тым ліку толькі ў ноч на 29–30 кастрычніка 130 чалавек (у асабістых справах іх смерць афармлена як 29, так і 30 кастрычнікам 1937 года).

## Па просьбах працоўных

Падчас Вялікага тэрору сігналаў аб парушэннях «ад працоўных» паступала столькі, што не ўсе з іх пераправяраліся — апарат спецслужбаў быў перагружаны. У асобных выпадках толькі даносу было дастаткова для хуткага, без адкрыцця крымінальнай справы, асуджэння да працяглага пазбаўлення волі або расстрэлу — калі гаворка ішла аб дачыненні да антысавецкай арганізацыі. Такое асуджэнне называлася — «па альбомных спісах».

Асуджаліся людзі як звычайнымі судамі, так і адмысловымі — Тройкамі і Асобымі тройкамі, якія былі створаныя для таго, каб разгрузіць звычайныя суды. У Троек судовы працэс быў спрошчаны, пасяджэнне займала каля 15 хвілін — за такі час, як засведчана ў следчай справе (з 11.00 да 11.15), быў асуджаны да расстрэлу Тодар Кляшторны.

Вялікі тэрор, які прайшоў у нашай краіне 80 гадоў таму, вырашаў важныя для савецкай улады задачы дзяржаўнага развіцця і кіравання. Найперш, былі ліквідаваныя агмяні любога арганізаванага іншадумства — палітычнага, эканамічнага, культурнага, інтэлектуальнага, нацыянальнага.

Па-другое, пад кантроль спецслужбаў былі ўзятыя ўсе элітныя групы савецкага грамадства і іх найбольш яркія прадстаўнікі. Па-трэцяе, дзяржава распрабавала, хай і з часовым поспехам, укараніць у свядомасць грамадзян перакананасць у няўхільнасці жорсткага пакарання за парушэнне нормаў і стандартаў, устаноўленых дзяржавай.

Страх перад рэпрэсіямі, і нават магчымасць быць названым «шкоднікам» або «ворагам народа», зрабіўся асноўным стымулам для эканамічнага і палітычнага развіцця савецкай дзяржаўнай сістэмы. А «даносніцтва», вызначанае як дзяржаўная норма (за неданясенне было прадугледжана крымінальнае пакаранне), стварыла дадатковы механізм кантролю за выкананнем палітычных і эканамічных установак.

## Ударная чэкісцкая праца

Варта асабліва адзначыць, што ў выніку Вялікага тэрору быў наладжаны кантроль з боку спецслужбаў за савецкай гаспадарчай і партыйнай бюракратыяй, які пасля тэрору набыў татальны характар: агентурная сетка збірала інфармацыю пра дзеянні ўсіх ланцужкоў дзяржаўнай машыны ад шараговых выканаўцаў да вышэйшага кіраўніцтва.

Злучэнне міліцыі і палітычнага вышуку ў адным ведамстве давала магчымасць сабраць найбольш поўную інфармацыю пра жыццё ўсіх кіруючых работнікаў (паводле так званых наменклатурных спісаў), на кожнага з якіх заводзілася спецыяльная тэчка, якая ўключала любую негатыўную інфармацыю, у тым ліку даносы і матэрыялы іх праверак. Калі прадпрыемства не выконвала план, выпускала няякасную прадукцыю, ці на ім мелі месца выпадкі вытворчага траўматызму, забастоўкі або проста незадаволенасць рабочых, спецорганы абавязкова правяралі, ці не было шкодніцтва з боку кіраўніцтва прадпрыемства і кіраўніцтва галіны, у якую прадпрыемства ўваходзіла. Тэчкі з падшытымі матэрыяламі за некалькі гадоў дазвалялі следчым пры неабходнасці выбудаваць любую версію меркаванага злачынства.

Заўважу, што ў адсутнасць кампутараў збор інфармацыі, яе апрацоўка і афармленне былі досыць працаёмкімі. У тыя часы было папулярна характарызаваць паспяховую працу стаханаўскай, ударнай. Чэкісцкая праца ў БССР была ўдарнай і выконвалася «стаханаўскімі метадамі».

# Касмапалітызм, газета «Праўда» і крыўда Мележа

**Практычна гатовая да выдання ўнікальная ў сваім родзе кніга Сяргея Шапрана «Беларускі гістарычны анекдот» — на краўдфандзінгавай пляцоўцы «Talaka» абвешчана падпіска на яе: www.talaka.org/projects/2359/fund. Гэта, па сутнасці, першае выданне ў жанры гістарычнага анекдота, дзе сабраны часам дакладныя, часам міфалагізаваныя камічныя і драматычныя гісторыі з жыцця вядомых літаратараў, а таксама дзеячаў культуры і палітыкі, сярод якіх Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Яўген Глебаў, Уладзімір Караткевіч, Якуб Колас, Янка Купала, Уладзімір Мулявін, Уладзімір Някляеў, Станіслаў Шушкевіч і многія іншыя — усяго ў кнізе больш за сто асобаў і больш за пяцьсот гістарычных анекдотаў.**

**«Новы Час» друкуе выбраныя аўтарам старонкі з будучай кнігі.**




Сяргей ШАПРАН

### Перастрахаваліся

Раман «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля нейкі час не маглі надрукаваць, бо супраць выступаў сакратар ЦК КПБ Васіль Шаура, вядомы ў літаратарскім коле па мянушцы «Вялікі маўчальнік». Ён тады мо месяц хварэў на грып, а ў выдавецтве баяліся друкаваць раман без яго згоды. Ужо потым, калі Шауру павядомілі, што Брыль значна перапрацаваў раман, той здзівіўся:

— Навошта? У гэтым не было неабходнасці.

### Паводле боскага закону

У 1940-я гады сям'я будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч жыла ў Заходняй Украіне. Маленькая Святлана памірала ад рахіту, але яе маці не магла выратаваць дачку, бо не магла нічога купіць на рынку. І тады бацька, які пасля Другой сусветнай вайны заставаўся ў шэрагах савецкай арміі, пайшоў у манастыр, што месціўся паблізу, і, падняўшыся па плячах сябровў за яго сцяну, укленчыў перад ігуменняй:

— Так, я савецкі афіцэр, але дзіця ні ў чым не вінаватае. Калі вы служыце Богу, то не можаце дапусціць смерці дзіцяці.

З таго часу з манастыра сталі штодня даваць паўлітра казінага малака, што і выратавала маленькую Святлану.

### Літаратуразнаўства па-камуністычнаму

1950 год. У разгары кампанія па барацьбе з касмапалітызмам, кіраваў якой сакратар ЦК ВКП(б) Жданаў. У гэты час Алесь Адамовіч абараняў дыпломную працу на філалагічным факультэце БДУ. Яе тэма — устойлівасць эстэтычных поглядаў Вісарыёна Бялінскага. Кіраўнік камісіі Іван Васілевіч (які чытаў курс «І. В. Сталін пра літаратуру» і сярод іншага любіў прыгадваць, як адпраўляў у турму аднаго вядомага літаратуразнаўца: «Я ў турму яго, а ён — назад, я яго — туды, а ён — адтуль!»), выслухаўшы Адамовіча і падняўшы папку з дыпломнай працай за ражок, нібы здохлую мыш за хвост, разгарнуў апошнія старонкі з бібліяграфіяй:

— А, б, в, г, д, е... А дзе «ж»? Жданаў?

— Бялінскі пра Жданава нічога не пісаў! — злосна адказаў Адамовіч.

— Ага! — узрадаваўся кіраўнік. — Мяркую, камісіі ўсё зразумела.

Зрэшты, Іван Васілевіч быў чалавекам непрадказальным, і калі потым называлі прозвішчы тых, хто абараніў дыпломныя, а імя Адамовіча не прагучала, Васілевіч, вытрымаўшы выразную тэатральную паўзу, прамовіў трагічным голасам:

— А што з гэтай працай? Мы доўга вырашалі. Але вось Васіль Васілевіч Сцяпанаў, наш філосаф, настаяў: хоць праца напісана птушынай мовай, аднак заслугоўвае самай высокай адзнакі. — І, зноў узяўшы папку за ражок, дадаў: — Толькі ўпішыце, што трэба.

### Як Бураўкін быў «лазутчыкам»

Як карэспандэнт газеты «Правда» ў Беларусі Генадзь Бураўкін аднойчы атрымаў даручэнне ад галоўнага рэдактара Міхаіла Зімяніна выехаць на вайсковыя вучэнні, якія праходзілі на тэрыторыі Віцебскай вобласці. А ў Бураўкіна, як на бяду, скончыўся тэрмін дзеяння «правдистского» пасведчання, між тым ехаць трэба было тэрмінова.

Ад генералаў у штабе было не працiснуцца, як раптам адзін з іх строга звярнуўся да Бураўкіна, відавочна збіраючыся паставіць яго па стойцы «смірна»:

— А хто вы, уласна кажучы, такі?!

— Карэспандэнт газеты «Правда».

— Прад'явіце пасведчанне!.. Ага! — узрадаваўся генерал. — Пасведчанне несапраўднае! А дзе, цікава, ваш пропуск?! Дзе вашы акрэдытацыйныя паперы?!

— Няма ў мяне нічога. Усё гэта я і хачу атрымаць.

— Во як!.. — генерал пачаў позіркам шукаць афіцэра, каб арыштаваць Бураўкіна, іадначасова задаў знішчальнае пытанне: — Як вы сюды пранiклі?! Вынаходлівасці Бураўкіну было не займаць:

— Гэта я, як карэспандэнт «Правды», хачу спытаць у вас: як гэта без пропуску, з пратэрмінаваным пасведчаннем мне ўдалося пракрасціся ў штаб?!

Генерал разгубіўся. У гэты час, на шчасце Бураўкіна, з'явіўся кіраўнік прэс-цэнтра, які ўручыў усе неабходныя дакументы.

### Заклікі

Рыгора Барадуліна, калі быў малады і часам п'янаваты, цягнула на рыфмаваныя заклікі, бо й час быў такі — суцэльных заклікаў да светлай будучыні. Так, аднойчы ён прапанаваў напісаць над акенцам у паліклініцы, куды здаюць аналізы:

*Браточкі, хворыя, сюдой*
*Здавайце першы свой надой.*

Іншым разам жартам напісаў рэкламу часопіса «Бярозка» на запалках:

*Стой!*
*Не запальвай папяроску.*
*Ты сыну выпісаў «Бярозку»?!*

На этыкетках жа гарэлкі ці віна рэклама «Бярозкі» магла выглядаць так:

*Цвярозы ты ці выпіўшы,*
*А наш часопіс выпішы!*

А аднойчы зарыфмаваў заклік у выдавецтве «Мастацкая літаратура», супрацоўніцы якога любілі курыць у вестыбюлі мужчынскай прыбіральні, паколь жаночая была на рамонце:

*Мілыя паненкі, лэдзі!*
*Не курыце ў туалеце.*
*Лепш займіце,*
*Будзьце любы,*
*Нечым іншым вашы губы!*

### Як Барадулін Мележа пакрыўдзіў

У Барадуліна быў такі язык, што, здаралася, нешта пра некага скажа, а потым сам жа пашкадуе, што такое зляцела з языка. Гэтаксама было і тым разам. Заходзяць аднойчы летнім днём Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін у Саюз пісьменнікаў, а дзяжурным сакратаром быў Іван Мележ, які любіў абодвух маладых паэтаў, і цяпер запытаўся:

— Чаму, Рыгор, ты на ўсіх эпіграмы пішаш, а на мяне яшчэ не напісаў?

І Барадулін сходу выпаліў такую эпіграму, што настрой у Мележа прыкметна сапсаваўся. З тым сябры і пайшлі. Ужо па дарозе Барадулін прызнаў, што атрымалася непрыгожа, не хацеў ён пакрыўдзіць Мележа, тым больш што любіць яго, а эпіграма сама неяк сарвалася з языка. Бураўкін параіў:

— Вярніся і скажы гэта.

— Не, адзін не пайду. Давай разам.

Вярнуліся. Бураўкін кажа:

— Рыгор вельмі любіць вас і не хацеў пакрыўдзіць.

Мележ цяплее пры гэтых словах, а Барадулін працягвае:

— Так, асабліва люблю ваша «Людзі на балоце». Гэта мацней за «Ціхі Дон»!

Мележу прыемна гэта чуць, ён пачынае ўсміхацца. Барадулін працягвае:

— Ды што там «Ціхі Дон»! Гэта як е.ля, а «Людзі на балоце» — як грэбля!

Мележ зноў мяняецца з твару...

— Ну, не змог утрымацца!.. Але ж прыгожа атрымалася: «е.ля — грэбля»! — казаў потым Бураўкіну Барадулін, які дужа шанаваў моўную гульню.

### Любімы гістарычны персанаж

Дыялог Петруся Броўкі і Рыгора Барадуліна:

— З усіх цароў люблю Пётру. І не толькі таму, што цёзка. Гэта ж ён пасылаў Меншыкаву запіску: «Прышлі Кацьку. Страшна ecці хочацца».

— Пятрусь Усцінавіч, а нам здавалася, што ваша пакаленне толькі кароткі курс ВКП(б) ведала!

### Самалюбімыя

Памёр Пятрусь Броўка. Барадулін стаіць ля труны, усе словы блытаюцца ў галаве. Раптам падыходзіць нехта з рухавых членаў Саюза пісьменнікаў і... віншуе. Барадулін недаўменна, хутчэй машынальна, пытаецца:

— З чым гэта?

— Тваё прозвішча ёсць пад некралогам у «Правде».

Тады ў СП нават вайна была — у падпісанты пад Броўкавым некралогам не трапіла цэлая група тавварышаў. Дык дамагліся праз ЦК, каб некралог паўторна далі беларускія газеты, дзе былі падпісаны ўсе тыя, хто любіў бачыць свае прозвішчы разам з імёнамі членаў ЦК.

Пра такіх дзядзька Рыгор звычайна казаў словам сваёй мамы: самалюбімыя.

### Калі статыстыка не на карысць

У сярэдзіне 1990-х беларуская студыя «Летапіс» зняла паводле сцэнара Уладзіміра Арлова фільм «Сімяон». І хоць карціна аднойчы нават значылася ў тэлевізійнай праграме, аднак замест яе на экранах з'явіўся фільм «Славное море, священный Байкал». Некаму з кіраўніцтва БТ не спадабаўся такі эпізод: Уладзімір Арлоў распавядаў у кадры пра тое, што калі Сімяон Полацкі адкрыў у другой палове XVII стагоддзя ў Маскве друкарню, іх колькасць там адразу павялічылася ўдвая — была адна, а стала дзве. Прычым гаворка ішла не толькі пра Маскву — пра ўсю Расійскую дзяржаву. У той жа час у дзяржаве продкаў сучасных беларусаў друкарскія станкі спраўна рыпелі ажно ў 134 друкарнях. Гэтае параўнанне і не спадабалася кіраўніцтву БТ, якое быццам кіравала не беларускім, а расійскім тэлебачаннем.

### «Пытаннечка»

З запісак Уладзіміру Арлову падчас сустрэч з чытачамі: «Ці трэба сучаснай беларускай дзяўчыне-падпольшчыцы ведаць гісторыю сваёй краіны?»

### Тост

Працуючы над кнігай «Таямніцы полацкай гісторыі», Уладзімір Арлоў знайшоў данясенне стукача, якое адносіцца да XVI стагоддзя. Прадстаўнік адной з найстаражытнейшых «прафесій», мабыць, прасачыўшы за падазронай для ўладаў кампаніяй, інфармаваў адпаведныя інстанцыі: «...Не раз выпівалі тыя панове за тое, каб дзеўка кахала, куля мінала і шабля не брала».

З пэўнага часу і сам пісьменнік нярэдка прыгадвае гэты тост за святочным сталом, праўда, заўважае, улічваючы беларускія рэаліі, яго можна мадэрнізаваць: і каб дубінка не брала.

**Працяг будзе**

# «Пад сцягам бел-чырвона-белым»

## Прысвячаецца 100-годдзю Першага Усебеларускага з'езда

**Па гарызанталі:** 1. Першы Усебеларускі з'езд, або ..., адбыўся 100 гадоў таму ў Мінску. Ён праходзіў з 5 па 18 снежня 1917 года ў будынку сённяшняга Купалаўскага тэатра. 4. Камедыя Янкі Купалы. Вядучыя ролі ў ёй выконваў дэлегат Усебеларускага з'езда, адзін са стваральнікаў беларускага нацыянальнага тэатра Усевалад Фальскі. Рэпрэсаваны, загінуў. 9. Назва, якую на з'ездзе атрымалі дэлегаты, прыхільнікі Вялікай беларускай рады, што выступалі за поўную незалежнасць Беларусі. 11. Тое, што і сябар. 13. ... Краўцоў. Імя дэлегата з'езда, беларускага паэта, аўтара слоў гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Рэпрэсаваны, закатаваны. 14. Канечная фаза ў развіцці насякомых. 15. Скрыпучая вярба ... вякі жыве (прыказка). 16. Наш ..., а ваш гаспадзін — чорт адзін (прыказка). 17. ... Рак-Міхайлоўскі. Імя аўтара музыкі да верша Максіма Багдановіча «Зорка Венера», які ўзначальваў прэзідыум з'езда, а пазней быў вядомым дзеячам Найвышэйшай Рады БНР. Расстраляны ў Мінску ў 1938 годзе. 19. Тое, што і сукенка (размоўнае). 23. Дзе сіла не можа, там ... дапаможа (прыказка). 24. Разнавіднасць якога-небудзь тавару. 26. Дзейнасць тайна ад уладаў Рады Усебеларускага з'езду пасля разгону яе бальшавікамі ў ноч на 18 снежня. 27. Трэцяя Устаўная ... — юрыдычны і палітычны акт, прыняты 25 сакавіка 1918 года, які абвясціў стварэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).




**Па вертыкалі:** 1. Яўхім ... Буйны беларускі вучоны-філолаг, этнограф, фалькларыст, аўтар больш за 1000 навуковых прац; разам з А.Бонч-Асмалоўскім быў абраны ганаровым старшынёй з'езда. 2. Скарочанае абазначэнне меры зямельнай плошчы. 3. Месца стаянкі. 5. Асцюкі на каласах жыта, ячменю. 6. Шпагаціна. 7. «Глядзіце ў будучыню смела! \\ Настаў доўгачаканы ...,\\ Пад сцягам бел-чырвона-белым\\ Чакае перамога нас». З верша Максіма Танка «Ты чуеш, брат?». 8. Назва, што атрымалі на з'ездзе прадстаўнікі Усходняй Беларусі, якія бачылі Беларусь у складзе Расіі; узначальвалі іх Я.Канчар, А.Вазіла, М.Гольман. 10. Тэарэтычны напрамак у навуковых і вучэбных занятках, адарванасць іх ад практыкі. 12. Адсутнасць цэнтралізаванага кіравання. 13. Урадавец, які стаіць на чале міністэрства. Ім быў дэлегат з'езда Тамаш Грыб, які ў БНР узначальваў міністэрствы ўнутраных спраў і земляробства. 16. Рух, ход развіцця (пераноснае). 18. Дамоўленасць пра што-небудзь. 20. ... Ландэр. Імя бальшавіцкага палітычнага і грамадскага дзеяча, што разам з Вільгельмам Кнорыным — не тутэйшыя, прышлыя, былі злоснымі ворагамі наданняя Беларусі дзяржаўнасці. Іх імёнамі названыя вуліцы ў Мінску. Абодва расстраляныя аднадумцамі. 21. Клаўдзій ... -Душэўскі. Беларускі палітычны дзеяч, дыпламат, аўтар стварэння бел-чырвона-белага сцягу, які ў час Усебеларускага з'езду ўжо шанаваўся як нацыянальны сімвал Беларусі. 22. Катэгорыя, клас. 25. Даўней: паштовая станцыя.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Рэвалюцыю рыхтуюць мысліцелі, а здзяйсняюць нягоднікі, бандыты» (НЧ, №42 ад 10 лістапада):**

Па гарызанталі: 1. Дружба. 5. Куб. 8. Дзеці. 9. Нуга. 11. Мамачка. 14. Гарэм. 16. Хлыст. 17. Старт. 18. Трумо. 19. Спіна. 20. Айчым. 22. Класіка. 26. Тата. 28. Якар. 29. Любоў. 30. Аладкі. 31. Шчасце.

Па вертыкалі: 2. Ура. 3. Адна. 4. Цела. 5. Кіёк. 6. Бог. 7. Снег. 10. Гарманіст. 12. Чыгунчык. 13. Ют. 15. Матка. 16. Хатка. 19. Сіта. 21. Мара. 23. Люлі. 24. Саба. 25. Коўш. 27. Ага! 28. Ямс.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1169

Падпісана да друку 08.12.2017. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.